# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl




Мастацкая тканіна → 3



Чыгуначны ріс-піс → 9

№ 43 (3154) Год LXI · Беласток, 23 кастрычніка 2016 г. · Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# ВАСЕВЫ і МАРУСІНЫ

**Вася Мацкевіч з Баравых і Маруся Марчук з Масева вянчаліся ў семяноўскай царкве паўстагоддзя таму. У лістападзе 1966 года. Памятаю тую восень, бо я тады, у другім класе, з маладзейшымі Жоржыкам, Крысяй, Іркай і Генікам збіралі ім на букет апошнія познія кветкі на лугах і агародах. За нашага жыцця не было вяселля ў Баравых! Зараз у Баравых чатыры хаты, адна кінутая. Жывуць пяць асоб.**

У той час яны былі «Borowyje", цяпер Borowe, як упісана ў «Dziennik Urzędowy", дзе ў Польшчы ў чарговы раз правілі назвы. Але адзначана там, у асобным параграфе, што скланяюцца яны іначай чым іншыя «Боровэ» ў Польшчы. Ідзеш не «do Borowego», а «do Borowych». Хай будуць тыя «Боровэ» — згадзіліся апошнія жыхары пасялення, між іншым дзеці Мацкевічаў. І не захацелі яшчэ і назвы вёсачкі па-беларуску, як і ва ўсёй Нараўчанскай гміне не захацелі: хай будзе так як усе хочуць. Яны ж — найменшая вёска ў гміне. «Асада», прысёлак Пасек, з солтысам у Баб'яй-Гары. Але быў час, калі яна называлася яшчэ іначай і прыналежала да іншых улад. У «Геаграфічным слоўніку Польскага каралеўства і іншых славянскіх краёў», у томе XV, частцы B на старонцы 210 стаіць, сярод пералічаных шматлікіх вёсак з такой самай назвай: „Borowiki! os., pow. prużański, 4 okr. pol., gmina Masiewo; 63 w. od Prużany".

— Я, быўшы хлопцам, калі не было ніякага знаку ні з аднаго боку Баравых, ні з другога, на старой таблічцы наклеіў літары выцятыя з іншых табліц, паставіў яе перад Баравымі з боку Пасек, — кажа Аляксандр Мацкевіч, цяпер мажны мужчына, бацька.

На юбілеі бацькоў у Баравых (меў быць у семяноўскай святліцы, але занялі яе на іншыя мерапрыемствы) Алік са старэйшым братам Міраславам — якія ж яны сталі падобныя! — цяпер галоўны гаспадар. Перапісаны на яго ўжо галоўныя землі гэтага калена роду Кастанчукоў, па бабулі Маньцы Касцюковай, разам са славутай арабінкай, дзе больш за 170 гадоў стаіць крыж.

Вядома, той крыжык чарговы — пастаўлены ўжо пасля другой вайны. Ледзь чыпее, ужо трымаецца адно на галінах тае разрослай арабіны. Гэта ўжо не «гарабінка», росшая каля скрыжавання старой дарогі пасецкай з бабігорскай, пясчанай. Кругом усё пазарастала сасновымі самасейкамі і былымі загонамі з роўненькай пасадкай. Але пушчанскі караед працерабіў нядаўна яшчэ маладняк, цяпер сосны і елкі па паўстагоддзя. Ужо Пасекі відаць!

— Нядаўна пытаўся я ў бацюшкі Мікалая Шэбеляна, што зрабіць са старым крыжом, калі б новы паставіць, — раздумвае Алік. — Бацюшка сказаў, што выкідаць стары крыж нельга, толькі беражліва сабраць астанкі святога дрэва і спаліць. Генік няхай дасць дрэва з Марушкі, паставім новы. Казалі бабігорскія бабы, што тут страшыла. Быццам бы кугакалі дзеці. У мінулым годзе пару месяцаў штосьці свяцілася... Нядаўна ў тэлебачанні казаў Віктар Кабац, што тут пахаваны ў 1864 годзе нейкі ксёндз...

— Вось як робяцца легенды! Мой дзед Іван Кастанчук казаў, што калі аднаўлялі крыж, на ім відэнела выразаная дата «1842». Яны і яе перапісалі на новы. Але крыж можа быць яшчэ старэйшы, яшчэ ўніяцкі. Кастанчукі, Кандрат і Пракоп, перасяліліся сюды з Меляшкоў у канцы XVIII ці на пачатку XIX стагоддзя, выдзерлі з пушчы і багны, вырабілі гэтыя ўрадлівыя кавалкі, рассяліліся ў Семяноўку, Тарнопаль, Слабодку, Бандары... На Расію ў бежанстве... Калі з бежанства вярнуліся ў 1923 годзе, стаяў яшчэ першы іхні дом — сухі ўжо дуб. Мой прапрадзед Мітрук Кастанчук, які дажыў свайго веку ў 1946 годзе (значыць, нарадзіўся ў 1845 годзе), не ўцёк са свае зямлі ні ў бежанства, ні падчас пацыфікацыі нямецкімі фашыстамі прыпушчанскіх вёсак у жніўні 1941 года. О, як стралялі феерверкі з клуні, у якую ён з унукам навалачыў розных снарадаў і іншай зброі... Згарэлі тады і сад, і драўніна на новы вялікі дом...

Прыслухоўваюцца нашым размовам дзеці: Мірыкавы Паўліна і Крыштафор, Алікавы Каміля і Уля. Не мелі таго шчасця распытацца ў старэйшага пакалення пра колішнія лады. Прабабка Марыя ўжо памерла, а прадзеда Касцюка мала памятаюць ужо і бацькі. Касцюк быў суровы — ужо нават я з яго ўнукам Жоржам баяліся гуляць на іхнім падворку, дзе расла двухсотгадовая ліпа. Тая ліпа — адна з чатырох векавых ліп. Наша, адзіная, якая яшчэ жывая, маладзейшая — у час, калі выязджалі ў бежанства, расла ўжо каля дваццаці гадоў. А цяпер яна адна, чыпее да другім баку ад хат. Нават лавачка пры ёй перагніла, няма і століка.




— Наша маленства кончылася, калі выразалі нашы джунглі.

Дзяўчаты глядзяць на нас, ужо пасівелых — пэўна нялёгка ім прыгадаць малымі, лазячымі «калідорамі» пад зараснікамі чарнасліву, перапляцёныя хмелем і таямнічага кустоўя са страляючымі белымі бубачкамі. Там мы рабілі дом, з печкамі, посудам. Каля зараснікаў стаяла яма, каля якой трапалі канопплі і лён — тады ў гэтай яме раскладзены быў малы касцёр, над якім сушылася бадылле. Як тады траскаталі церніцы і трапачкі, сыпалася кастрыца! Ад тае кастрыцы, вось і кастрыцы, як сення. Тут на поплаве прабавала вырасці маладая ліпка, якой пабегі ўсё зрэзвалі, а яна ўвесь год пускала новыя, моцныя, светлазялёныя. Побач пахацеў агурэчнікам і кропам агарод... Тут цяпер палеткі Жоржа. А другі поплаў там, у бок падрэчка Нарвы Буяўкі — тут на былым тарфяніку, пасля ліквідацыі цераспалосіцы, выраслі палоскі Іванавых. Пасля яны зарунелі, але калі былі яшчэ поплаў, каціліся мы ўніз з яго, пад бакамі адчуваючы выбоіны былых града...

Камення ўжо там не было, але яно такое, каменне, што як яго не выбірай, камень вырастае з зямлі. Я пра тое вырастанне камення нанова і нанова расказваю, і пра вырастанне нас з дзіцячых штонікаў... А наймалодшыя Марусіны і Васевы ўсміхаюцца. Як ім уявіць таго Аліка і Мірыка, як імчацца па пясчанай дарозе ў шапках-аблавушках з Алінкай і Генікам (я была ўжо студэнткай з першым сваім фотаапаратам) — па дарозе пракладзенай стагоддзі таму? А па той дарозе — далей на Баб'ю-Гару, і далей праз пушчу — у тое Масева, адкуль іх дзед Вася прывёз у Баравыя Марусю Марчук?

Але ж дзед Вася добра «трымаецца»! І Вася, і Маруся ў бэзавых кашулі і блузцы, як і Паўліна. «Залатыя годы» ў Баравых — у бэзавых адценнях. Над месцам маладых на «вялікай хаце» — іх шлюбны партрэт. Такія «манідлы» рыхтавалі па заказе вандроўныя фатографы. Найчасцей з асобных здымкаў герояў шлюбнага дня — такі колішні фота-шоп — маладой накідалі ўяўны празрысты вэлюм, аздоблены кветачкамі і галінкамі аспарагусу, маладому ў бутаньерку піхалі тое ж, накладвалі пад шыю матылька або тугі гальштук. І памяткі засталіся назаўжды па беларускіх вёсках, віселі ў рамках, аколеныя сучасным «красным кутом» з фатаграфіямі былых і наступных пакаленняў. Штыўна пасаджаных пад пальмамі і бярозкамі дзядоў з царскай арміі, сыноў з польскага войска, дзяцей у школе... А пасля каляровыя — сучасныя — унукаў. На сценах у штораз маднейшыя ўзоры. Калісьці — на пабеленых сінькай сценах, на папяровых шпалерах, пасля на драўляных панэлях, а ўрэшце і на пластмасавых. Сучаснасць дайшла і да пушчы....

— Горка гарэлка! Горка гарэлка! — пад гармонік патрабуе ад «маладых» Янка Лясота з гурта «Нараўчанкі».

— За ўсё паўвека і не нацалаваліся! — жартам крывіцца Маруся. — Не было калі!

Прыходзяць віншаванні і са свету. Калі прыняць іх па тэлефоне, трэба выйсці на вуліцу.

— Там пад знакам добра прымае! — падказвае Мірак. — А то «засенгу» ў хаце няма.

І каб пазваніць з мабільнага тэлефона, трэба выйсці ў поле. Калі глянуць са спадарожніка на Баравыя, відаць яшчэ і стары сад, і Генікаву шклярню, якой ужо няма. І з накінутай «сеткі» абсягу відаць, што гэты кавалачак пакінуты па-за ўвагай мабільных аператараў. Адцятыя тыя беларускія прыпушчанскія вёскі таксама ад аўтобуснай камунікацыі. Нават парадавацца святам разам з Васем і Марусяй Мацкевічамі было цяжка дабрацца ў выхадныя дні.

Жыві як хочаш.

А ці страшыць надалей пад арабінкай? Пару месяцаў мігацела там пад крыжом у траве маленькая электрычная лямпачказніч, схаваная ў слоічку, каб не прамокла. Я сама яе запаліла. На памятку там пахаваных аднаго з нашых продкаў і дзетак, чые душачкі кугакалі і плакалі сярод ночы, прасячы ў нас малітвы і ўспаміну.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Супраць смерці

З 5 кастрычніка ў Беларусі праходзіў традыцыйны Тыдзень супраць смяротнага пакарання, мерапрыемствы якога адбываліся пад лозунгам „Смяротнае пакаранне — незваротнае". Праваабаронцы і грамадскія актывісты падрыхтаваліся да гэтай даты належным чынам. Былі зацверджаны мерапрыемствы і графікі іх правядзення, а выказванні, аналітыка, развагі і праведзеныя акцыі шырока асвятляліся ў сродках масавай інфармацыі. Ну а газета „Народная воля" № 75 (4122) выйшла са спецвыпускам, цалкам прысвечаным праблемам смяротнага пакарання ў Беларусі. Яго раздавалі ў розных кутках Беларусі задарма, прама ў рукі, каб давесці свае погляды да шырокіх колаў беларускага грамадства.

І даводзіць было што. На старонках спецвыпуску размясціліся выказванні на дадзеную тэматыку і адзінай пакуль што лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі ад Беларусі Святланы Алексіевіч, і неаднаразовага прэтэндэнта на гэтую прэстыжную прэмію, былога палітвязня і кіраўніка Праваабарончага цэнтра „Вясна" Алеся Бяляцкага, і каардынатара кампаніі „Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" Андрэя Палуды, і былога старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Мячыслава Грыба, і музыканта Лявона Вольскага, і пісьменніка Уладзіміра Арлова. Знайшлося месца і на шырокую гутарку з Любоўю Кавалёвай — маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва.

І нават гэта не ўсё. Яшчэ статыстыка, факты, лічбы, інфармацыя, роздум... Матэрыялы падрыхтаваныя так, што тэарэтычна людзі рознага ўзросту, рознага сацыяльнага статусу, незалежна якога полу і якой адукацыі, знойдуць тут некага аўтарытэтнага для сябе, каб праз яго думку заахвоціцца прачытаць і іншых аўтараў. І ўвогуле задумацца над праблемай смяротнага пакарання ў сябе на радзіме, бо Беларусь на сёння — адзіная краіна ў Еўропе, дзе практыкуецца смяротнае пакаранне.

Мы ў Гародні даўно не выходзілі на вуліцу для раздачы газет. І зразумела чаму. Мы ж жывем у час інтэрнэту. Праз яго працей распаўсюджваць свае ідэі. Хоць друкаванае слова хіба што ёсць не менш эфектыўным сродкам, хоць і больш працаёмкім. Таму друкаваная прадукцыя з большага адпраўлялася па рэгіёны, дзе карыстанне інтэрнэтам не набыло маштабаў абласнога цэнтра.

Апошні раз за распаўсюд друкаванай прадукцыі ў Гародні мяне затрымала міліцыя 23 жніўня 2011 года, калі я раздаваў спецвыпуск бюлетэня, які галоўнай мэтай меў інфармаванне гарадзенцаў пра прысуд Алесю Бяляцкаму. Тады, пакуль мяне затрымалі, я раздаў амаль усё, што ў мяне было. Хоць мяне схапілі менш чым праз паўгадзіны, як я выйшаў на вуліцу роднага горада. Людзі проста выдзіралі з рук друкаваную прадукцыю, каб даведацца думку тых, каму яны давяраюць больш, чым афіцыйным агітатарам афіцыйных СМІ. І вельмі было цікава параўнаць рэакцыю людзей тады і цяпер.

І невялічкая розніца ў рэакцыі некаторых гарадзенцаў была заўважная. Газеты з рук больш ніхто не выдзіраў. І нават з'явілася невялічкая катэгорыя людзей, якія ад пачатку адмаўляліся браць іх у рукі. Пераважна гэта былі вельмі маладыя людзі, якія нібыта мусяць паводле свайго ўзросту цікавіцца жыццём і ўсімі яго праявамі.

І з гэтым псеўдадасягненнем хіба што можна павіншаваць нашу хваленую сістэму адукацыі, работнікі якой з'яўляюцца галоўным рэзервам участковых камісій, якія лічаць галасы выбарцаў. І тых, хто столькі сіл і сродкаў кідаў на тое, каб думкі беларускага грамадства унісаніравалі з афіцыйнай прапагандай.

Хоць па вялікім рахунку іх віншаваць няма з чым. Бо за столькі год масіраванай агітацыі і прапаганды яны дасягнулі няшмат. Можна сказаць, што амаль зусім нічога не дасягнулі. Большасць гарадзенцаў газеты бралі з задавальненнем і ахвотай. Многія раскрывалі іх адразу, каб пабачыць змест і па гарачых слядах падыскутаваць з распаўсюднікамі, даведацца пра мэту акцыі ўжывую. Некаторыя прасілі некалькі нумароў, каб раздаць іх суседзям або на працы.

Людзі шукалі праўды. І гэтым разам яны даведаліся праўды пра смяротнае пакаранне ў Беларусі. Яны будуць думаць пра гэта.

Віктар САЗОНАЎ

# Шымпанзэ ў шкарпэтках



Мой вельмі арыгінальны знаёмы кажа, што людзі з маленькай галавой па прыродзе рэчаў хутчэй і больш эфектыўна думаюць. Я падкрэсліваю той факт, што ён мае вялікую «беларускую» лабэсіну і да дурняў яго не прылічыш. Усё ж ён настойвае на сваім, сцвярджаючы, што калі носьбітам думак з'яўляюцца электрычныя імпульсы, якія прабягаюць па сетцы нейронаў нашага мозгу, дык з-за таго, што чым меншы мозг, тым больш кароцяць свой шлях, фінішам якога з'яўляецца канкрэтна думка. Не ўдаючыся, вядома, у яе змест. Таму што яна можа, вядома, быць гэтак жа абстрактнай, як прагматычнай. І нават выраджанай, альбо высакароднай. Альбо ўтапічнай, альбо рэальнай. Альбо бесталковай, альбо творчай. Ва ўсякім выпадку, мой сябар давярае больш малой, чым вялікай галаве. Тут выкарыстоўвае прыклад бліскучага Анатоля Франса, французскага аўтара з пералому XIX і XX стагоддзяў, лаўрэата Нобелеўскай літаратурнай прэміі за 1921 г., якога невялікая, але фасонная галоўка хавала ў сабе мозг, які важыў нават менш, чым мозг шымпанзэ, таму што толькі каля 700 грамаў. Гэта прыкладна напалову менш, чым вага сярэдняга чалавечага мозгу, розлічанага на паўтара кіло. Не кажучы ўжо пра «рэкардсменаў» такіх як, напрыклад, Іван Сяргеевіч Тургенеў, класік рускай літаратуры і майстар псіхалагічнага аналізу, які меў «łeb jak sklep». Змяшчалася ў яго чэрапе больш чым тры кілаграмы мозгу. На жаль, на прыклад Тургенева мой сябра пацiснуў плячыма. «Гэта ўсяго толькі выключэнне, якое пацвярджае правіла, — настойваў на сваім. — Калі б у яго быў у два разы меншы чэрап, несумненна, быў бы геніем! А ці Тургенеў не лічыцца геніем? А каго гэта сёння турбуе?!».

Мы жывем у часы сярэдніх людзей, якія не вольныя ў рэшце рэшт ад самаўлюбёнасці, крывадушнасці. Але і поўных высакароднасці, спагады і клопату пра дабро іншых. Кожны жыве па мерцы сваіх каштоўнасцей. Вызначае яе запраграмаваны ў нас індывідуалізм — неабходнасць вылучыцца сярод іншых. У добрым ці дрэнным. Быў такі геній... Карпат! Яго звалі Чаўшэску. Да таго часу, калі кіраваў нібыта сацыялістычнай Румыніяй, паставіў сабе 39 экстравагантных віл, не грэбуючы 21 раскошным апартаментам па ўсім свеце і ўласным паркам самалётаў, верталётаў і трох спецыяльных цягнікоў. У той жа час Румынія ўваходзіла ў лік самых бедных краін Еўропы. Перад тым як «генія» расстралялі як звычайнага бандыта, ён паставіў сабе помнік сваёй напышлівасці — пачварны Палац народа — сёння запушчаны, які страшыць вачніцамі некалькіх тысяч акон без шкла, не лічачы соцень закалочаных дошкамі дзвярэй! Гэта руіна. Гэта была руіна ўжо ў момант вылівання яе падмуркаў.

Чэрап «генія Карпат» быў невялікі. Ён не быў таксама замалы. Быў ён сярэдні. Як і ў Сталіна, Гітлера і многіх іншых «геніяў» да іх і пасля іх. Хапае такіх і ў цяперашняй Польшчы — Польшчы пад кіраваннем «геніяў» ПіС. І гэта не залежыць ад таго, якія ў іх чэрапы — вялікія ці малыя. Памер чэрапа не з'яўляецца мерай чалавечага розуму. Ані яго геніяльнасці, ані вар'яцтва. Важнае значэнне мае якасць розуму, якая заснавана на тонкім балансе паміж прыроджанай да нас — людзей — «жывёльнасці» ды процілеглым ёй розумам. «Жывёльнасць» гэта эгаістычнае «я», гэта прымітыўныя эмоцыі. Розум гэта інтэлект, разважаючы сваё «я» ў кантэксце іншых людзей; гэта суперажыванне, салідарнасць з іншымі.

«У свядомасці чалавека дзве розныя істоты: эмацыйнае Шымпанзэ» і «рацыянальны чалавек». Як кіраваць эмацыйным Шымпанзэ, які знаходзіцца ў кожным з нас? Як быць Чалавекам?» Гэтыя пытанні задае прафесар Стыў Пітэрс, сусветнавядомы псіхіятр, аўтар бестселера «Парадокс Шымпанзэ». Пітэрс тлумачыць прыроду ўнутранай барацьбы, якая адбываецца ў свядомасці кожнага чалавека. «Шымпанзэ» з'яўляецца часткай мозгу, якая дзейнічае як незалежная істота. Яго сэнсам з'яўляюцца эмоцыі, якія клубяцца ў мозгу. Ніхто не ўплывае на іх прыроду, але кожны чалавек можа кіраваць імі. Ці можна захапіць уладу ад Шымпанзэ? Можна. Ужо пара, каб пачаў валодаць нашым розумам рацыянальна думаючы... Чалавек. А ён — у кожным з нас.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Крызіс беларусістыкі

Калі два тыдні назад пачаў я пісаць пра студэнцтва, не спадзяваўся, што гэта расцягнецца аж на тры часткі. У мінулым тыдні пісаў, што на беларускую этнафілалогію ў Беластоку не было ахвотных. Сумна, але такая праўда. Аднак кепскім весткам няма канца. На мінулым тыдні прыйшлі яны з Варшавы. Як паведаміла Ніна Баршчэўская, кіраўнік Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта ў інтэрв'ю для Радыё Рацыя, упершыню за шэсцьдзясят гадоў на першы курс другога роўню (магістратура) не набралася пяці ахвотных, каб адкрыць там навучанне. Хачу ў гэтым месцы аддаць голас прафесар Ніне Баршчэўскай, бо лічу гэта вельмі важным, каб зразумець, у якім тупіку апынулася ўся беларусістыка ў Польшчы.

Яўген ВАПА

* * *

«У Варшаўскім універсітэце на Кафедры беларусістыкі пачаўся новы навучальны год. 47 чалавек пайшло на першы курс бакалаўрыяту, хаця кіраўнік Кафедры прафесар Ніна Баршчэўская адзначае, што невядома, колькі з іх застанецца, а колькі прыйшло толькі па пасведчанне студэнта. А вось на першы курс другога роўню (магістратура) людзей не набралася дастаткова, працягвае спадарыня Баршчэўская:

— Было замала кандыдатаў, і ў сувязі з гэтым мы не маглі адкрыць першы курс другога роўню. А гэта значыць, што з магістарскімі студыямі ў нас праблемы. У сувязі з гэтым я звярнулася да рэктара з просьбай, каб дазволіў нам правесці яшчэ адзін набор у лютым, з наступнага семестру. Калі нам удасца прыняць як мінімум пяць чалавек, то першы курс другога роўню будзе ў нас.

Радыё Рацыя: — Скажыце, калі ласка, ці першы раз такая сітуацыя, што не набіраецца курс?

— Першы раз. Заўсёды было так, што на другі ровень паступала частка нашых студэнтаў пасля бакалаўрыяту, і часткова прыходзілі людзі звонку. Сёлета аказалася, што першыя не здолелі абараніць бакалаўрскія працы, у сувязі з чым ніхто не паступіў з нашых студэнтаў, а звонку было толькі тры кандыдаты.

Радыё Рацыя: — Ці Вы бачыце ў гэтым нейкія больш глабальныя прычыны, ці проста так склаліся абставіны толькі ў гэтым годзе?

— Хацелася б спадзявацца, што толькі ў гэтым годзе. Трэба аптымістычна глядзець. Але мы добра ведаем, што моладзі ўсё меней, мы ўваходзім у дэмаграфічны спад у Польшчы. Таму гэта праблема ёсць ва ўсіх ВНУ, гэта не толькі наша праблема, таму што, наколькі ведаю, лёс іншых кафедраў беларусістыкі таксама не «ружовы». Між іншым, у Беластоку, праблемы таксама маюцца ў Любліне. Мы вядзем навучанне трох моў. Гэта наша спецыфіка. Мы ўвялі навучанне беларускай, расейскай і англійскай мовам. Нашы выпускнікі атрымліваюць дыпломы магістра або бакалаўра з пазначэннем — беларуская філалогія з расейскай і англійскай мовамі. Нам здавалася, што гэта павінна прыцягнуць моладзь, паколькі ў сучасным свеце мовы трэба ведаць.

Радыё Рацыя: — Паколькі ў вас вывучаецца і беларуская мова, і расейская, ці можна сказаць, што ў вас вучыцца цяжэй, чым на русістыцы?

— Цяжэй, але спадзяюся, што цікавей. Мы рыхтуем аднак моладзь, якая мае крыху шырэйшыя веды, таму што калі вывучае расейскую мову, то ў нейкім кантэксце, звязаным з гісторыяй, культурай Расеі. Яны ведаюць не толькі пра Беларусь, але і пра Расею.

Радыё Рацыя: — Які склад студэнтаў? Ці гэта адны палякі, ці ёсць беларусы або людзі з іншых краін?

— У нас у асноўным палякі, пераважна моладзь з Варшавы. Калі здараецца па адной асобе ці то з Падляшша, ці з Беларусі, то гэта адзінкі. Але яны ёсць. Так што сапраўды варта вылоўліваць і ганарыцца тымі нешматлікімі студэнтамі, якія многа дасягнулі і якія, спадзяюся, у будучыні будуць звязваць свой лёс з беларускімі пытаннямі. Калі не з Беларуссю, то прынамсі з беларусазнаўствам і працягваць сваё зацікаўленне.

Радыё Рацыя: — Хацелася б удакладніць: то-бок тое, што не ўдалося набраць курс, ніяк не звязана з фінансавымі або арганізацыйнымі магчымасцямі, і ўсе магчымасці ёсць?

— Ёсць магчымасці, калі прыйдзе моладзь. Сардэчна запрашаем! Мы несумненна абвесцім усю інфармацыю пра наш набор, таму што існуе магчымасць пачаць навучанне не з кастрычніка, а з лютага. Лічу, што наша праграма цікавая, з ёй можна пазнаёміцца анлайн, таму што цяпер усё ёсць на нашай старонцы. А яшчэ мы працуем над новым напрамкам, ён будзе называцца філалагічна-культуразнаўчыя даследаванні Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Там будзе значна пашыраная праблематыка з галіны культуразнаўства, і думаю, што гэта таксама такая навіна, якая можа прыцягнуць моладзь да нас».

Станіслаў РАМАНЧУК, Беларускае Радыё Рацыя, Варшава

# Матывы з акружаючай прыроды на мастацкай тканіне

**Майстэрня габелену дзейнічае ў Гайнаўскім доме культуры ўжо 12 гадоў і займаецца пошукамі новага ў ткацкім мастацтве, якое выводзіцца з мясцовых традыцый. На Гайнаўшчыне вясковыя жанчыны ў мінулым ткалі на кроснах, карыстаючыся традыцыйнымі ўзорамі сваіх мам і бабуль, а таксама ствараючы новыя. На пакрывалах і абрусах побач птушак, аленяў і даўніх раслінных узораў паяўляліся новыя матывы. Частка жанчын займаецца ў гайнаўскай майстэрні габелену ўжо 12 гадоў, а некаторыя далучыліся да іх толькі некалькі гадоў таму. Усе яны часта карыстаюцца прыроднымі матывамі, паколькі акружаючае іх асяроддзе натхняе да пошукаў новых арнаментаў. Гэта можна ўбачыць на адкрытай 30 верасня ў Гайнаўскім доме культуры выставе майстэрні габелену «Мастацкая тканіна — сонца на каберцы», дзе розныя матывы з сонцам або толькі інспіраваныя сонцам прэзентуюцца на мастацкіх тканінах, выкананых рознымі тэхнікамі.**



■ Члены майстэрні габелену ГДК з Зінаідай Якуць (трэцяя злева ў першым радзе) на фоне сваіх мастацкіх тканін (справа Малгажата Краўчык і Анна Леанюк)



Выставу адкрыла і прывітала сабраных мастацкая кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін, якая пахваліла ўдзельніц майстэрні габелену за выкананне вельмі прыгожых тканых прац. Дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч пахваліў гайнаўскіх жанчын за здольнасці і цярплівасць, неабходныя падчас выконвання мастацкіх тканін. Апякунка ткацкай майстэрні Зінаіда Якуць і згаданыя кіраўнікі ГДК удзельніцам ткацкіх заняткаў уручалі дыпломы, падарункі і выдадзеныя з нагоды выставы буклеты са здымкамі прэзентаваных на экспазіцыі прац.

Майстэрняў мастацкага ткацтва ў маштабе нашай краіны мала, бо мала інструктараў у асяродках культуры ўмее навучыць такому тканню. Старшы інструктар па справах мастацтва і рэкламы ГДК Зінаіда Якуць — выпускніца Мастацкага ліцэя ў Супраслі па спецыяльнасці мастацкае ткацтва — рашылася свае рэдкія ўмеласці перадаць мясцовым жанчынам. Тыя захапіліся мастацкім ткацтвам і ўжо 12 гадоў выконваюць цікавыя і прыгожыя тканіны з матывамі ўзятымі з пушчанскай прыроды.

— Гэта ўжо шостая выстава прац удзельніц майстэрні габелену. Спачатку мы вучыліся розным тэхнікам мастацкага ткання і выконвалі нескладаныя працы. Пасля сталі выконваць мастацкія работы і прэзентаваць на выставах, арганізаваных кожныя два гады ў Педагагічнай бібліятэцы, Музеі і асяродку беларускай культуры і ў нашым доме культуры. Падчас мастацкага ткання патрэбны ткацкія ўмеласці і ўменне паказаць задуманае на сваёй працы. Неабходныя таксама вольны час і цярплівасць. Мы спатыкаемся раз на тыдзень і тады тры гадзіны займаемся мастацкім ткацтвам. Праз два апошнія гады мы рознымі тэхнікамі выконвалі працы з матывам сонца, якія прэзентуюцца на сённяшняй выставе. Дваццаць «сонечных» работ былі выкананы як класічныя габелены і рознымі іншымі тэхнікамі, напрыклад як «сумак», ці «стрыжаны дыван». Гэтыя працы вытканыя з выкарыстаннем розных матэрыялаў, бавоўны, воўны і спасылаюцца на натуру, акружаючую нас прыроду. Аўтары паказваюць таксама ўласныя рэфлексіі і перажыванні, якія, напрыклад, я прадставіла на працы названай «Смутак», дзе сонца закрытае хмарамі. На экспазіцыі ёсць яшчэ іншая мая праца, дзе за дрэвамі відаць сонца. Падчас заняткаў у майстэрні мы ствараем мастацкія тканіны, вучымся працаваць у групе, ладзім сяброўскія адносіны. Калі паўставала наша майстэрня, не было падобных у дамах і асяродках культуры на Беласточчыне. Пасля сталі арганізаваць такія майстэрні ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры ў Беластоку і Бельскім доме культуры, але не ведаю, ці такія кружкі, як у нас, дзейнічаюць надалей, — сказала старшы інструктар Зінаіда Якуць, апякунка майстэрні мастацкага ткацтва. — На выставе я хацела звярнуць увагу на тыя тканіны, якія напамінаюць барэльефы. Напрыклад, на тканіну Анны Леанюк, дзе апрача цікавага матыву з сонцам, аформленага яркімі колерамі, бачым працу у прасторы.

На працу Анны Леанюк звярнуў увагу гайнаўскі мастак Збігнеў Будзынскі, які разам са сваім сябрам выступіў з цікавым музычным міні-канцэртам.

— Трэба пахваліць жанчын, якія сталі займацца мастацкай тканінай. Ткуць яны дзеля ўласнага задавальнення і разгортвання сваіх мастацкіх здольнасцей. Лепшыя работы гэта мастацтва вышэйшага ўзроўню. Відаць тут цікавыя тэхнікі, якія дазваляюць гуляць не толькі ўзорамі, колерамі, але і выконваць тканыя барэльефы, што бачна на працы Анны Леанюк, — сказаў мастак Збігнеў Будзынскі.

— У маёй бацькоўскай хаце ў Старым Ляўкове на кроснах ткала бабуля. Я сачыла за яе працай, якая мяне цікавіла. Выконванне мастацкіх тканін мне падабаецца. На працы прэзентаванай на выставе я спалучыла некалькі спосабаў ткання і выйшла з плоскасці ў прастору. Выконванне тканых работ мяне суцішае і ў нестандартны спосаб дазваляе паказаць цікавыя матывы, — сказала Анна Леанюк.

Былая настаўніца Лідзія Назарук, аўтарка габелену ў яркіх колерах, адсутнічала на адкрыцці выставы, бо знаходзілася ў далёкім падарожжы. Затое прыбыла Марыя Голуб, жонка пакойнага Міхала Голуба, актыўнага гайнаўскага беларускага дзеяча. Яна займалася тканнем у майстэрні ад самага пачатку яе дзейнасці і рабіла гэта вельмі ўдала. Сказала, што мастацкае ткацтва гэта ейнае хобі і хаця апошнім часам не займаецца ў майстэрні, цікава было ёй паглядзець новыя работы сваіх сябровак.

— Мы, займаючыся тканнем, адпачываем ад нашых жыццёвых клопатаў і прыемна праводзім час. Мастацкае ткацтва робіць нас больш адкрытымі на іншае мастацтва. На тканых працах можна заўважыць індывідуальныя стылі работы і мастацкія пошукі, — гаварылі Галіна Цагелка, Дарота Сенюць, Яніна Цвалінская, Данута Каліноўская, Марына Кухарская.

Я паказала захад сонца над возерам і ажно два гады заняло мне гэтае тканне. Падчас нашых сустрэч пануе прыемная атмасфера і хутка праходзіць час, — сказала Людміла Якімюк.

Не дакончыла сваёй працы Здзіслава Багдановіч. Памерла яна і сабраныя ў ГДК ушанавалі яе памяць. Ад 2004 года ў майстэрні габелену ў ГДК было выкананых каля 120 тканін габеленавымі, сумаковымі, стрыжанымі і іншымі тэхнікамі. Мастацкія тканіны выкананыя ў ГДК прэзентаваліся таксама па-за Гайнаўкай, на агульнапольскіх выставах — Біенале аматарскай унікатовай тканіны ў Быдгашчы і падчас Трыенале непрафесійнай ткацкай творчасці «Турак».

— Выконванне габеленаў гэта нескладаны спосаб ткацтва, які быў перад тканнем на кроснах. Габелен робіцца ў адну аснову і тчэцца доўга, а на кроснах можна ткаць у некалькі асноў і гэта хутчэйшая праца. Аднак габелены з'яўляюцца незвычайнымі мастацкімі працамі і хаця выконваюцца яны шмат гадзін, то паказваюць душу ткаллі, — лічыць Зінаіда Якуць,

На заняткі ў майстэрні стаў хадзіць Уладзіслаў Грыка з Сушчага Барка і хаця не закончыў ён сваёй працы з сонцам, то прыбыў на выставу работ сваіх сябровак. Малгажата Краўчык з Пляньты, вядомая на Гайнаўшчыне перш за ўсё з-за выкананых кручком і вышываных прац, наладзіла сувязь з майстэрняй габелену ў Гайнаўцы і выткала дома габелен з выявай вялікага жоўтага сонца, які прэзентуецца на выставе ў ГДК.

— Габелен з сонцам гэта частка майго трыпціха на тэму жыцця. Мне складана было б кожны тыдзень прыязджаць з Пляньты на заняткі ў Гайнаўскі дом культуры і таму я ткала дома. Апошнім часам я была моцна занята, бо з жанчынамі з Пляньты і наваколля рэалізавалі мы праект «Падляшскія Мадонны». Мы займаліся разьбой па дрэве, якая будзе паказвацца на выставах у святліцах Нараўчанскай гміны. Я выконваю Мадонны гафтаваныя, разныя і тканыя, выдала кніжачку з маімі Мадоннамі і маімі вершыкамі, — сказала Малгажата Краўчык.

Выстава «Мастацкая тканіна — сонца на каберцы» працуе ў вялікім адрамантаваным калідоры дома культуры. Дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч паінфармаваў, што зараз рамантуецца канцэртная зала, мяняецца яе асвятленне на энергаэканомнае, рамантуюцца некаторыя памяшканні і будуць куплены мэбля і камп'ютары, усё ў рамках праекта, фінансаванага перш за ўсё Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Кляшчэлеўская фізікатэрапія

З пачаткам сакавіка г.г. пачаў працаваць кабінет фізікатэрапіі ў Кляшчэлях. Ініцыятарам стварэння такой установы быў бургамістр горада Аляксандр Сяліцкі.

— Думка аб добраўпарадкаванні будынка старога дзіцячага садка, — гаворыць бургамістр, — узнікла яшчэ ў 2010 годзе перад самаўрадавымі выбарамі мінулага склікання. У Кляшчэлях былі тады выбраны новы кіраўнік самаўрада і ў канчатковым выніку ідэя заняпала. Запатрабаванне на рэабілітацыйныя паслугі ў Кляшчэлеўскай і ў суседняй Чаромхаўскай гмінах было значнае. Дагэтуль фізікатэрапеўтычнае выздараўленне пацыенты праходзілі ў гайнаўскай бальніцы на рэабілітацыйным аддзяленні. Трэба было папярэдне рэгістравацца на некалькі месяцаў раней. Таму рабіліся доўгія чэргі. У час апошніх выбараў, у 2014 годзе, выбаршчыкі дазволілі мне вярнуцца на пасаду бургамістра. Ажыла затым ідэя фізікатэрапеўтычнага кабінета. З гэтым пытаннем я звярнуўся да дырэктара Гайнаўскага ЗОЗ Рыгора Тамашука. Абмеркавалі мы дэталі справы. У адпаведнасці з дамовай Гміна адрамантавала будынак, прызначыла грошы на неабходнае абсталяванне, затым абавязалася несці кошт утрымання ўстановы. Гайнаўскі ЗОЗ заключыў кантракт з Нацыянальным фондам здароўя і забяспечыў кабінет персаналам. Дзякуючы нашаму хадайніцтву напрадвесні гэтага года закончыліся рамонтныя работы і 1 сакавіка кабінет быў здадзены ў карыстанне. Гміна ў мінулым годзе прызначыла 60 тысяч зл. і сёлета 21 973 зл. на закупку медыцынскіх прылад. Кошт рамонту будынка абышоўся сумай 50 тысяч зл. Зараз у фізікатэрапеўтычным кабінеце працуе адна рэабілітантка (другая адбывае стажыроўку). Кабінет выконвае больш за дзясятак працэдур. Як сказала мне рэабілітантка, штомесячна працэс выздараўлення ў сярэднім праходзіць дваццаць пацыентаў. На маю думку, абслугоўванне ў гэтым самым часе некалькіх працэдурных кабінетаў для аднаго чалавека — складаная справа. Таму варта разважыць ці не прыняць на штат другога спецыяліста.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Вясковая дэмаграфія

Вясковая гміна Бельск-Падляшскі займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў — гэта 31% усяго Бельскага павета. Яна па-суседску з васьмю іншымі гмінамі. Тут пражывае 6 839 чалавек у 61 вёсцы (салэцкіх вёсак 52). На 100 жанчын прыпадае 100 мужчын. Шчыльнасць насельніцтва 16 асоб на квадратны кіламетр.

Два гады таму Бельская вясковая гміна налічвала 6 966 чалавек. Яшчэ тады існавалі два населеныя пункты: Саботчына і Ужыкі. Варта адзначыць, што ў вясковай гміне сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 74% усяе тэрыторыі і лясы — 19%.

Найбольшыя вёскі ў вышэйзгаданай гміне гэта: Відава — яна налічвае 552 жыхары, Аўгустова — 529, Пілікі — 282, Кнарыды — 263, Плёскі — 237, Лубін-Касцельны — 229, Дубяжын — 213, Праневічы — 204, Кнаразы — 196, Парцава — 178, Гацькі — 174, Грабавец — 173, Крывая — 149, Райск — 147 і Галады — 146.

Да найменшых вёсачак належаць Арлянка — тут жыве ўсяго 10 чалавек, Белая — 16, Яцэвічы — 20, Падбелле і Ступнікі — па 22, Петшыкова-Вышкі — 24, Жэпнева — 33 і Райкі — 37. **(яц)**

# Эмбаргавы рыкашэт па Беларусі

**III Усходні эканамічны кангрэс, які ў верасні адбыўся ў Беластоку, быў прысвечаны шырокаму спектру гаспадарчых праблем. Паколькі паслядоўнасці эканамічнага эмбарга на Расію прынеслі вельмі крутыя складанасці для беларускай эканомікі, пра іх менавіта папрасіў я сказаць больш удзельніка Кангрэса, лідара беларускіх прадпрымальнікаў Уладзіміра КАРАГІНА.**


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

— Любыя рэгіянальныя канфлікты заўсёды закранаюць суседнія краіны, закранаюць людзей. Мудрасць палітыкаў заключаецца ў тым, каб не дапускаць да канфліктаў. Самае дурное гэта біцца, ваяваць, праліваць кроў. Мы нават у страшным сне не маглі прадбачыць, што такія падзеі пойдуць ва Украіне. Беларускае грамадства вельмі блізка ўспрымае лёс брацкага славянскага народа. Да таго ж Украіна — наш эканамічны партнёр. У самой Беларусі ваеннага канфлікту няма, але гэтая сітуацыя вельмі сур'ёзна адбіваецца на эканоміцы. Наш тавараабарот з Украінай да канфліктных дзеянняў даходзіў да сямі мільярдаў долараў. Мы прадавалі ва Украіну многа сельскагаспадарчай тэхнікі, многа бытавых прыбораў, бытавую хімію і г.д. Але калі ў дзяржаве канфлікт, калі дэфіцыт бюджэту, калі там абвальваецца валюта, натуральна, што зніжаецца пакупная здольнасць насельніцтва і ў выніку маем зараз тавараабарот з Украінай парадку ў тры мільярды долараў — мы рэальна страцілі чатыры мільярды долараў. Гэта адзін бок.

У Беларусі геаграфічны цэнтр Еўропы — возера Шо пад Полацкам з'яўляецца цэнтрам. Хаця ў Беларусі шмат недастаткаў геаграфічнага характару, напрыклад няма непасрэднага выхаду на мора, не можа развівацца карабельны турызм як, напрыклад, у Швецыі, Эстоніі ці Латвіі, ні рыбалоўства ці іншыя галіны. Але мы ў цэнтры Еўропы — на традыцыйных транспартных калідорах між Еўрасаюзам і Расійскай Федэрацыяй. Праходзяць чыгуначныя магістралі, праходзяць трубаправоды і ў апошнія гады было ў нас прыцягнута многа замежных інвестыцый, падпісаны інвестыцыйныя шматгадовыя дамовы па стварэнні транспартна-лагістычных калідораў. Мы ўклалі многа грошай на добрыя беларускія дарогі, на Маскву, Гомель. Мы гэта рабілі для нашых бізнесавых партнёраў, каб праз Беларусь было выгадна вазіць грузы. І тавараабарот паміж Еўропай і Расійскай Федэрацыяй значны. Вялікую частку абслугі гэтых эканамічных зносін Беларусь брала на сябе, гэта наш бізнес — загрузка нашага транспарту; паўстала БАМА — Беларуская асацыяцыя міжнароднага аўтатранспарту. Купілі новыя віды транспарту, грузавікі, увялі іх у еўрапейскія лагістычныя сістэмы, пабудавалі ўласныя лагістычныя цэнтры для абслугоўвання транспартных патокаў. Мы спадзяваліся ўнесці свой уклад у развіццё еўрапейскага кантынента.

Эканамічныя санкцыі супраць Расіі ўдарылі па Беларусі больш чым па самой Расіі. Наша краіна не надта буйная — займаем тэрыторыю ўдвая меншую за тэрыторыю Германіі, а пражывае ў нас дзевяць з паловай мільёнаў чалавек. Нас страта работы па грузаперавозках, па гэтых лагістычных сетках, моцна ўдарыла. Апрача гэтага наш бізнес страціў 5-8 мільярдаў долараў у год. Гэта сур'ёзная бюджэтная страта, у выніку якой упала наша пакупная здольнасць, кампаніі не маюць абаротных сродкаў, ускладніўся доступ да крэдытных рэсурсаў. Мы апынуліся ў вельмі вузкім калідоры эканамічных магчымасцей і гэта ўдарыла па бізнесе, так па дзяржаўным, як і, асабліва балюча, па прыватным. У выніку фірмы сталі аптымалізаваць персанал, значыць звальняць людзей, хаця ў нас быў вялікі дэфіцыт рабочай сілы. У нас не хапае будаўнічых работнікаў, вадзіцеляў грузавікоў. І кампаніі былі вымушаны скарацiць персанал з-за адсутнасці заказаў. Вялікі ўдар па будаўніцтве: няма ў кампаніі грошай — няма будаўніцтва; менш будуецца дамоў, менш офісаў, менш прамысловых аб'ектаў.

Упала пакупная здольнасць насельніцтва: пяць гадоў назад абяцалі тысячу долараў сярэдняй зарплаты, гэта меў даць бізнес. І цяпер з былых шасцісот долараў сярэдняя зарплата ўпала да чатырохсот; і дай Бог захаваць яе на ўзроўні трохсот, двухсот пяцідзесяці ў найбліжэйшы час. Мы бачым тэндэнцыю: людзі сталі забіраць грошы з банкаў, бо з нечага жыць. Гэта таксама ўдар па ўнутраным тавараабароце: людзі менш купляюць у магазінах, менш укладваюць у свой адпачынак, турызм, паездкі — гэта ўсё звязанае. А ў Расіі адбыўся абвал расійскага рубля; раней было каля сарака рублёў за долар, зараз каля сямідзесяці. А беларускія здзелкі з Расіяй праводзяцца ў расійскіх рублях. І вось у фізічным аб'ёме мы прадалі ў Расію на два працэнты больш тавараў: тэхнікі, прадуктаў, а ў грашовым эквіваленце мы атрымалі на трыццаць працэнтаў менш. Такі вось убытак нанесены Беларусі нестабільнасцю ў рэгіёне.

Мы ў Беларусі заўсёды вылучаліся мірным характарам. Вось гэтыя беды, якія адбыліся ў нас пасля чарнобыльскай аварыі, калі радыяцыйнае воблака пайшло на Беларусь і ў выніку два мільёны чалавек такім ці іншым спосабам захварэлі. Нам давялося перасяляць шмат людзей. А СССР развальўся і з некага было запатрабаваць дапамогу. Чацвёртая частка дзяржаўнага бюджэту на працягу дзесяцігоддзяў ішла на пагашэнне страт ад чарнобыльскай аварыі. І сёння мы, як спонсары дзіцячага госпісу, гэта бачым. Баліць сэрца, калі ўсё больш дзяцей хварэе лейкеміяй і іншымі недугамі і прыходзіцца з болем глядзець у вочы хворых дзяцей. Дапамогі Беларусь атрымала нямнога, можа мы занадта ціха сядзелі, не крычалі, і ўрад перамоўчваў — і ў савецкі час, і пазней.

Далей — мы дабравольна адмовіліся ад ядзернай зброі — гэта ўнікальны выпадак. Мы не таргаваліся, а вось Украіна патаргавалася і два-тры мільярды долараў утаргавала. Мы паказалі прыклад маральнасці ў міжнародных адносінах, але гэтага не дацанілі. А цэняць тых, хто ваюе, хто шантажуе, хто таргуецца, хто нешта выклянчвае. Гэта парадзіла ў насельніцтве даволі вялікі скепсіс і крыўду — чаму свет не падтрымлівае нашых мірных і гуманітарных ініцыятыў. Добра, што ўлады разумеюць настрой беларускага народа і ніводзін беларускі салдат не будзе ваяваць нават пад шыльдай ААН. Няма ніводнага нашага салдата за граніцай. У нас уведзена карная адказнасць за ўдзел у любых канфліктах, у баявых дзеяннях, у Ісламскай дзяржаве Іракa і Леванта (ІДІЛ). Хаця маладыя людзі — рамантыкі, заўсёды былі і будуць. Соткі маладых людзей з Расіі, Беларусі, едуць у ІДІЛ. На жаль, і ва Украіне нашы па адной і другой старане; мы гэта ведаем па іх трагічных лёсах.

Дарэчы, мы ў Беларусі прынялі каля ста тысяч украінцаў. Мы атрымалі вельмі добрых і сумленных работнікаў: будаўнікоў, лекараў; у сельскіх мясцовасцях у нас былі пустуючыя кватэры. Мы падмацаваліся рабочай сілай, асабліва ў гомельскім, брэсцкім ды мінскім рэгіёнах, а яны задаволены, што прымаюць іх у нас як родных. Ды і Еўропа павярнулася да нас тварам. І беларускія палітыкі таксама працерлі вочы. Еўропа зняла санкцыі, Беларусь ладзіць зносіны ва Усходнім партнёрстве, пачынаюць сустракацца міністры замежных спраў, эканомікі, наш міністр замежных спраў быў на днях у ЗША.

Праблемы застаюцца, але мы не складваем рук. Мы вынеслі цэлы рад мірных ініцыятыў у час армяна-азербайджанскай вайны. Я сам прымаў у тым удзел, а Аркадзь Вольскі, былы старшыня Расійскага саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, прысвяціў два гады дзеля прымірэння ваюючых бакоў. Калі мы мелі сустрэчу саюза каапeратываў у Вільнюсе, у той жа час у Белавежскай пушчы адбывалася мерапрыемства па роспуску СССР. У выпадку Украіны беларускія ўлады, таксама грамадства, праявілі ініцыятыву, таму мірныя перагаворы адбываюцца ў Мінску. Мы вось у кастрычніку плануем у нас сустрэчу прадстаўнікоў бізнесу з Беларусі, Украіны і Расіі, каб звярнуць увагу палітыкаў і на гуманітарныя пытанні. Палітыкі бачаць, што народ гэта падтрымлівае.

**Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

**Паломніцтва з’яўляецца важным этапам у жыцці веруючага чалавека. Магчымасць выезду на пілігрымку аж у Грэцыю мела праваслаўная моладзь з Гайнаўкі. Наш выезд адбыўся па запрашэнні мітрапаліта Аргаліды Нектарыя, а наладзілі яго Брацтва праваслаўнай моладзі ды парафія Святой Тройцы ў Гайнаўцы.**

Падарожжа пачалося 21 жніўня пасля поўдня. Ноччу мы пераехалі Славакію і Венгрыю. Пры ўездзе ў Сербію нашу ўвагу звярнуў калючы дрот на мяжы і імправізаваная вёска імігрантаў. Гэта была сумная карцінка, якой не паказваюць у тэлебачанні. З імігрантамі мы сустракаліся яшчэ няраз. Часта можна іх убачыць на заправачных станцыях, дзе яны адпачываюць і начуюць. Варта заўважыць, што большасць з іх гэта маладыя мужчыны. А калі ўжо сустрэнеш дзіця, дык бачыш, што першае, чаму яго навучылі ў жыцці — гэта выцягваць ручку па грошы. Апошні раз мы сустрэлі імігрантаў у час нашага вяртання. У Бялградзе, сталіцы Сербіі, яны сабраліся ў парку, дзе, як можам дадумвацца, іх агарадзілі сеткай мясцовыя людзі.




Першы перапынак мы мелі ў Бялградзе, дзе начавалі і пры нагодзе наведалі найбольшую на Балканах царкву св. Савы. Далей мы ехалі цераз Македонію і 23 жніўня прыбылі ў Грэцыю. Затрымаліся мы ў асяродку св. Ігнація ў мясцовасці Зогка на Пелапанесе.

Ужо наступнага дня мы пачалі наведванне Грэцыі. У першую чаргу мы паехалі ў Мікены, дзе пабачылі старажытную скарбніцу, вароты льва і маўзалей караля Агамемнона. Затым мы падаліся ў старажытны амфітэатр у Эпідаўры, найбольшы сярод захаваных тэатраў, які дзейнічае па сённяшні дзень. Увесь наступны дзень мы прызначылі на Афіны, дзе хадзілі па Акропалі і старым горадзе — агоры — цэнтры філосафаў і гандляроў. Вяртаючыся, мы затрымаліся ў Карынфе, каб пабачыць канал, які спалучае Іанічнае і Эгейскае моры. Апрача таго, у час нашага побыту ў Грэцыі мы наведалі горад Аргос, які знаходзіўся непадалёку нашага асяродка, ды горад Нафпліон — першую сталіцу незалежнай Грэцыі, а таксама мясцовасці: Патры, Спарта і Містра. На канец удалося нам нават пераплысці лодкамі пячору поўную сталактытаў, сталагмітаў і сталагнатаў.

Хаця мы былі ў многіх турыстычных пунктах, то нашай галоўнай мэтай былі месцы рэлігійнага культу. Мы хацелі пазнаць грэцкае праваслаўе, якое адрозніваецца ад нашага — славянскага. На пачатку мы сустрэліся з мітрапалітам Аргаліды Нектарыем. Ён расказаў нам пра праваслаўе ў Грэцыі, пра цяжкасці ў грэцкай царкве ды ролю праваслаўнай моладзі ў яе жыцці. Ён таксама ўспамінаў пра свой побыт у Польшчы 30 гадоў таму назад. Наступнага дня, пасля сустрэчы, мы прынялі ўдзел у святой літургіі ў царкве ў горадзе Аргос. Тады мы ўпершыню пабачылі як выглядае літургія на грэчаскай мове. Потым мы два разы супольна з грэкамі адпраўлялі святую літургію. Літургія на грэцкай і царкоўнаславянскай мовах была чымсьці новым, як для нас, так і для грэкаў. Апрача таго мы мелі магчымасць пакланіцца многім мошчам, м.інш. св. Патапія ў манастыры ў мясцовасці Лоўтракі, св. Пятра ў Аргос, св. Андрэя і яго крыжу ў мясцовасці Патры, св. Дзмітрыя ў Салоніках, іконе Божай Маці, згодна з традыцыяй, напісанай евангелістам Лукой, у манастыры Мегаспілон. Апрача гэтага, мы былі ў многіх цэрквах і манастырах на цэлым Пелапанесе.

Калі ідзе пра самую Грэцыю, дык яна зусім розніцца ад нашых зямель. Нават у канцы жніўня тэмпература сягае сарака градусаў па Цельсію. Найбольш адчуваецца яркае сонца. У стравах, якія мы елі ў час нашага побыту, было многа алею і мы атрымлівалі шмат хлеба. Апрача таго, усюды расло многа фруктовых дрэў, м. інш. аліўкі, гранаты, мандарыны, вінаград. Нельга забыцца пра крызіс, які дакучае грэкам. Усё даражэйшае, чым у нас, нават у два ці тры разы. Краявіды ў Грэцыі вельмі прыгожыя. Пераважаюць горы і ўсюды растуць пальмы. Людзі там сардэчныя і заўсёды аказваюць дапамогу.

Позным вечарам 31 жніўня мы выехалі з Грэцыі. У Гайнаўцы мы былі ўжо раніцай 3 верасня. Наш выезд, апрача духоўнага натхнення, быў цудоўным закanчэннем і працягам канікулаў. У нашых сэрцах надоўга застанецца ад яго незабыўныя ўражанні.

Мы ўдзячны мітрапаліту Нектарыю за запрашэнне, прыхільнасць і шчырую гасціннасць. Дзякуем нашым апекунам, у якіх мы мелі вялікую падтрымку праз гэтыя два тыдні: настаяцелю парафіі Святой Тройцы ў Гайнаўцы Міхаілу Негярэвічу, айцу Андрэю Буслоўскаму — галоўнаму арганізатару паломніцтва, дыякану Марку Мацюку, матушцы Лілі Буслоўскай. Многая лета!

**Наталля ВАСЬКО**
ІІ клас Гайнаўскага белліцэя

# У гасцях у Крынках

Не пабаяліся кепскага надвор’я і падаліся на запланаваную раней экскурсію. Вучні чацвёртага і пятага класаў Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы наведалі Крынкі і некалькі навакольных мясцовасцей. Разам з імі настаўнікі Аліна Жукавіцкая, Бэата Кендысь, Пётр Анішчук і Агнешка Паўлоўская. Мяне ў сваю кампанію запрасілі ў якасці ліцэнзаванага турыстычнага гіда, а перш за ўсё заўзятага краязнаўца.

На месца сустрэчы выбралі праслаўленыя ва ўсім свеце Крушыняны. У халодны дажджлівы дзень гайнавяне аказаліся якраз адзінымі турыстамі. Выявілася, што прастуда — вынік кепскага надвор’я, спрычынілася да адсутнасці Джэміля — апекуна мячэці. Не дзіўна, у сярэдзіне драўлянай святыні ні печкі, ні награвальніка. Прытым дазволена там сядзець толькі ў шкарпэтках, ці як хто хоча — у панчохах. У цемры і холадзе дзеці з увагай выслухалі аповедаў старшыні Мусульманскай рэлігійнай гміны Браніслава Талькоўскага. Цікавіліся, між іншым, ці татары жэняцца з хрысціянамі, ці хрысцяцца, ці прыводзяць у мячэць дзяцей. Быў яшчэ візіт у Цэнтр мусульманскай адукацыі і культуры — таксама халодны і, як аказалася, без доступу ў туалет. Карыстаючыся дахам над галавой і добрай акустыкай, распавяла я пра Крушыняны, якія ведаю з аповедаў мясцовых старажылаў, пра крушынянскую шматрэлігійнасць сугучную хаця б у народнай медыцыне. Незалежна ад канфесіі крушынянцы лячыліся малітвай так праваслаўнай, мусульманскай, як і каталіцкай. Далічыўшы яшчэ габрэяў, усе чатыры канфесійныя супольнасці спалучала беларуская мова і песня. Так было калісь. Сёння гэта зусім іншая вёска. Славуты нават за Гарадком буйны рамесны цэнтр саступіў месца татарскай гастраноміі і агратурызму. Зніклі і мясцовыя, а з імі беларуская мова.

Прамоклым і прастуджаным малышам не вельмі хацелася бадзяцца па таксама дажджлівых, сумных Крынках. За прыкладам Сакрата Яновіча, якога хата была заўсёды адкрытай, асабліва для моладзі, запрасіла я ўсіх да сябе. На прыкладзе гісторыі маёй хаты, яе будаўнікоў, чарговых пасяленцаў гайнавяне пазнаёміліся з крынскім, беларускім стагоддзем, не здарма названым Сакратам «хатнім». Былі і фальклорныя майстар-класы, у тым ліку аналіз тэксту песні «Едуць мазуры». Што абазначае «вянок залаты», які вязе ў Гаркавічы (там была запісана песня) малады мазурочак? Чаму маці не дазваляе дачцэ «стаяць з панам». Які канкрэтна «край, дзе харошы абычай» мае на ўвазе мазурочак, тлумачыўшы дзяўчыне, што павінна за яго выйсці замуж. Песня пакідае слухача з нявырашанай праблемай: ці «пан» у змозе пераламаць стэрэатыпы ў галовах беларускіх сялян? Завяршэнне гэтай гісторыі няхай кожны дапіша сабе сам.

Пры нагодзе дзеці пахваліліся, што беларускую мову вывучаюць у школе на ўроках прысутнай тут Бэаты Кендысь. Слухаючы пра старыя Крынкі, пазнаёміліся яны таксама з гісторыямі, пераказанымі мне мясцовым пісьменнікам Сакратам Яновічам.

Але, мабыць, самым вялікім крынскім атракцыёнам стала цёплая, хлебная печка, на якой можна было пагрэцца, адстаяўшы сваю долю ў немалой чарзе.

**Іаанна ЧАБАН**

# 90 гадоў сельгасгуртка ў Орлі

Пра гісторыю і дзейнасць сельгасгуртка расказвае **Марк Хмялеўскі**, яго старшыня, солтыс і грамадскі дзеяч.

Звыш дзесяці гадоў таму трапіў я зусім выпадкова на сход у пажарным дэпо ў Орлі; аказалася, што быў гэта сход сельгасгуртка. Сабралася крыху людзей і што да чаго — хочуць яго развязаць. Я заглянуў у статут, а ён быў падпісаны Грышам Пятроўскім, маім родным дзедам; значыць — гэта ён быў заснавальнікам таго гуртка.

І мы не дазволілі развязаць, пераабралі ўлады. Мне запрапанавалі старшынства і я згадзіўся. Такім чынам я быццам абнавіў нашу гісторыю. Тыя, што вялі тады гуртoк, у прынцыпе рабілі гэта толькі на паперы і ўжо не хацелі далей, аддалі старыя дакументы і толькі.

Што такое сельгасгуртoк? Нам здаецца, што гэта трактары. Праўда, калісь, засноўваючы колы вясковых гаспадынь ці сельгасгурткі, улады прасоўвалі нейкую асвету на вёску; гэта быў план на 1950-1970-я гады — так уводзіліся, м.інш. пачаткі механізацыі. Сельгасгурткі засноўваліся з тым намерам каб супольна купіць нейкую машыну для земляробства; папулярныя былі малатарні. Пазней сельгасгурткі арганізавалі міжгуртковыя машынныя базы (MBM — Międzykółkowa Baza Maszynowa), дзе было ўжо больш машын і трактароў. А пазней арганізавалі кааператывы сельгасгурткоў (SKR — Spółdzielnie Kółek Rolniczych). Аднак заўсёды сельгасгуртoк ці гмінны іх кааператыў быў уласнікам. І па сёння нічога не памянялася і калі сельгасгуртoк хоча наладзіць нейкую дзейнасць, мусіць заснаваць вытворчы кааператыў сельскагаспадарчых паслуг. Гэтак дзеялася да 1990-х гадоў, калі гэтыя кааператывы падупалі і быццам загубілі каардынатаў. Колы вясковых гаспадынь існуюць і сёння, хаця яны мо нават несвядомыя, што з’яўляюцца спадкаемцамі пачаткаў кааперацыі. У нашым старонні колы вясковых гаспадынь менш папулярныя, але ў мясцовасцях з энергічным насельніцтвам, напрыклад у Вялікай Малапольшчы, дзе я нядаўна бываў, яны працуюць свядома і вельмі актыўна. Сельгасгуртoк можа заснаваць кола вясковых гаспадынь, хаця і самі гаспадыні могуць такі суб’ект зарэгістраваць і стаць законнай няўрадавай арганізацыяй. Гэта, так можна сказаць, першыя няўрадавыя арганізацыі, якія калісь былі створаны на вёсцы і мелі ведамсственны характар.

У нашым арлянскім сельгасгуртку ёсць звыш дзясятка актыўных асоб, маем звыш чатырнаццаці гектараў лугоў, частку якіх, ад г.зв. старога саду, хочам прызначыць пад вадаём, які хочам пабудаваць супольна з гмінай. Калі дамовімся на здзелку, хаця чыноўнікі заўсёды ствараюць праблемы — аказваецца, што гміны грунт не надта гмінны — але ж можна звярнуцца ў суд за ўстанаўленне ўласнасці. Гэтая ж інвестыцыя была б дзеля ўсіх жыхароў.

Калі гаварыць пра сельгасгуртoк, то ў нас склаўся такі стэрэатып, што гэта машыны. Але з ходам часу роля сельгасгуртку памянялася і сёння гэта ўжо арганізацыя не толькі земляробаў, але ўсіх сялян. Мы маглі б памяняць назву на „згуртаванне”, але трымайма традыцыю, захавайма „сельгасгуртoк”. З цягам часу мы выведалі ў дакументах, што сельгасгуртoк з’яўляецца найстарэйшай арганізацыяй у нашай гміне; 1 красавіка 1926 года быў заснаваны сельгасгуртoк „Postęp”, другой была пажарная каманда з кастрычніка 1926 года — значыць сёлета адзначаем дзевяностую гадавіну.

Што мы здзейснілі за апошнія дзесяць гадоў? Мы, як сельгасгуртoк, сталі суб’ектам у нашым грамадстве, пад нашым патранажам быў выдадзены альбом „Орля запісаная карцінай”, адбываліся розныя фэсты, канцэрты, у мінулым годзе рэалізавалі супольныя праекты з арганізацыяй „Działaj Lokalnie”, апошнія два гады ладзілі міжнародны абмен моладзі, пасля выдалі другую кніжку аб Орлі. З нагоды юбілею выканалі кашулькі з лагатыпам сельгасгуртка, шкляныя кубачкі, шарыкавыя ручкі, сумкі і г.д.

Адносна планаў: маем на думцы заснаваць мікрапрадпрыемства — калі, вядома, атрымаем датацыю — дзеля вырабу мясцовага прадукту, нейкіх мясцовых кулінарыяў, хатніх джэмаў, лясных дароў, свойскага хлеба... Ёсць памяшканне ў „старой мясарні”, можам заарандаваць, прыспасобіць.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Пра што напісала сятрыца?



Фота Уля ШУБЗДА

— Słuchajcie, białoruski jest fajny! — аўтарытэтна аб'явіў класу хлопец за першай партай. Вокліч быў рэакцыяй на сустрэчу з журналісткамі «Зоркі». Усе сябры пераўтварыліся ў слых. Нідзе яшчэ нас не прывіталі такімі арыгінальнымі словамі!

Мова пра сустрэчу з вучнямі ПШ у Нараўцы. Мы пазнаёміліся на ўроку роднай мовы, які вяла дырэктар Ліля Тарасевіч. Дзеткі ўжо чулі пра «Ніву» і пра поспехі ў нашых конкурсах. Вось, той хлапчына, які так прыгожа адазваўся пра беларускую мову, свой погляд вынес з роднай хаткі. Яго старэйшыя сёстры Вікторыя і Карнелія Барэчкі друкаваліся ў «Зорцы».

— І ведаеце пра што мая сястра напісала верш? — спытаў у аднакласнікаў той жа адважны хлапец.

— Пра што? Гавары хутчэй, пра што быў гэты верш?

— Пра такога шчура.

— Такога агіднага, страшнага?

— Не, пра такога, што жыве з намі ў хаце...

Звярок, які яшчэ хвіліну таму палохаў, зараз усім спадабаўся.

Сяброўскія спрэчкі прыводзім тут невыпадкова. Прыклад з хатнім пацучком даказвае, што пра ўсё можна пісаць з гумарам і пяшчотай. Ну, хатнія звяркі, яны проста ідэальныя персанажы для казак і вершаў. Яны таксама ўважна слухаюць, калі для іх спяваем песні. А ўжо найбольш прыслухоўваюцца, калі вершык аўтарскі, пра іх. Не верыце — самі паспрабуйце! **(ЗОРКА)**

## Ветрам занясло

*(казкі народаў Каўказа)*

Аднойчы Хожа пайшоў у агарод да суседа і стаў галушыць агурочкі, дыні — усё, што пападалася пад руку — ды ў мяшок.

Тут падышоў да яго стары агароднік і пытае:

— Як ты папаў у агарод?

Хожа на тое:

— Узняўся моцны вецер і ён сюды мяне занёс.

Стары не адстае:

— А чаму ты галушыш гародніну?

Хожа наморшчыў бровы і кажа:

— Я не ірву гародніны, я толькі трымаюся за бацвінне, каб вецер мяне не занёс.

Стары кажа:

— Ясна! Вецер цябе занёс, перакінуў праз плот і ты трымаешся за бацвінне, каб вецер цябе не занёс. А чаму агуркі, дыні ды ўсё, што тут расце, апынулася ў тваім мяшку?

Хожапрыкінуўся дурнем і кажа:

— Сам не ведаю. Якраз заходжу ў галаву, як такое са мной здарылася?!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



Сябры з КШ н-р 3 у Гайнаўцы. Фота ГК

### Міра ЛУКША

## Шыпшына

*Ружовая кветка, калюча галіна.*
*Сабачая ружа — Rosa canina.*
*Сын Лады — багіні кахання ў славянаў*
*Палель у вянку выступаў, у ружаным,*
*у залочаным строі ладзіў вяселле,*
*з богам кахання, сваім братам Лелем.*
*Шыпшына сімвалам была маладосці,*
*але і жалю, пакутаў ды злосці,*
*праз тыя калючкі, што ўсеялі голле,*
*знакам варожасці была яна й болю.*
*Краса маладая, плёны асеннія.*
*«Роса каніна» аддзячыць насеннем.*
*Многа карысных для нас вітамінаў*
*за лета ўсё назапасіць шыпшына,*
*ад малакроўя ці ад прастуды,*
*ад запаленняў маем лек цудны!*
*Цвіце ружова, пладом ірдзее,*
*людзям і птушкам на зіму надзея.*
*Красуе ў полі сціплай дзяўчынай.*
*Дзікая, свойская ружа-шыпшына!*

### Алег Мінкін

## Ліістапад

Абляцелі жалуды.
Дапякаюць халады.
Пад нагой лісцё шуршыць.
А навокал — ні душы.
У выгоністым бары,
У прыціхлым гушчары
То наперад, то назад
Ходзіць сумны Ліістапад.
Адпачнуў ён крыху
У зацішку на імху,
Дзе не грэе болей дух
З лісця зроблены кажух.

## УВАГА КОНКУРС! № 43-16

**Мае дзве нагі,**
**дзевяць перакладзін.**
**На апошнюю як стану,**
**Зверху яблыкі дастану.**
**Л......**

**(У. Мацвеенка)**

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 30 кастрычніка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 40: дарога. Узнагароды, CD з беларускімі песнямі, выйгралі Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага, Аляксандра Аніськевіч, Юстына Астапковіч з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# Сумныя вочы сабак

На вуліцах амаль усіх мясцовасцей убачым шмат бяздомных сабак. Іх выкідаюць людзі, або яны жывуць так ад пачатку свайго жыцця. Лёс гэтых бедных, нявінных звяроў бывае розны. Часам ім пашанцуе і нехта іх накорміць, а нават забярэ ў хату. Але часта яны не выжываюць і гінуць на вуліцы. Бывае, што пападаюць у прытулак для жывёл.

У час канікул я ездзіла ў такі прытулак у Гайнаўку. Мяне гэтае месца вельмі ўразіла. У памяці заселі сумныя, бедныя вочы сабак. Я проста ўсхвалявалася. Паехала я туды, каб на свае вочы пабачыць як выглядае жыццё і праца ў прытулку, а таксама крыху дапамагчы апекунам сабак. Калі толькі я прыйшла да боксаў, сабакі сталі гучна брахаць. Немагчыма было пералічыць больш за 140 сабак!

Апекуны дазволілі мне ўзяць некалькі жывёл на прагулку і пакарміць іх. Мне найбольш запамятаўся адзін момант. Калі я ўзяла ў рукі прывязь, пранізлівы брэх раптоўна прыціх. Гэта было настолькі дзіўным, быццам я перамясцілася ў іншы свет. На працягу некалькіх хвілін усе «грозныя» сабакі, змяніліся ў «нявінных ягнятак», усе яны прагнулі любові, хатняга цяпла і доўгай прагулкі. Яшчэ нядаўна былі ў іх сумныя вочы з-за крат, а зараз блішчэлі надзеяй, хвасты вілялі ад радасці.

Я ніколі не забуду гэтага вопыту і зменных пачуццяў, надзеі, з якой сабакі шукалі ласкі людзей. Мне вельмі цяжка ўявіць як людзі лёгкай рукой выкідаюць хатніх звяроў. Гэта выклікае мой пратэст і хочацца крыкнуць на ўвесь голас:

*— Людзі, спыніцеся! Падумайце! Прыстойныя людзі не выкідаюць сваіх сяброў!*

**Аляксандра ЗІНКЕВІЧ**
**Бельск-Падляшскі**


Оля Зінкувіч



Магдаліна ЛЯСОТА
ПШ у Нараўцы

## Сабачка

У мяне ёсць сабачка,
Які чорны колер мае
І сваімі вясёлымі вочкамі
На свет пагдядае.
Усіх нас ён добра знае
І з намі ахвотна гуляе!

## Вершы Віктара Шведа



### Адкуль сінякі на лобе

Маці пытае Адама
— Чаму сінякі на лобе?
— Гэта ад думання, мама,
Такая ў мяне аздоба.

Думаў — не кіне дурніла
Каменем ў маё цела.
Вытрымкі не хапіла,
Ды цела яшчэ пацярпела.

### Як прадзеды жылі?

— Уяўляеш сабе, татка,
У прадзедаў далёкіх
Не было нават згадкі
Аб электрычным току!

Як жа жыць, калі ў хаце змрок,
Тэлевізары не гралі?
— Вось таму, дарагі сынок,
Усе яны паўміралі.

*Замкі і палацы Беларусі*

## НЯСВІЖ — ЧОРНА-ЗАЛАТЫ ЦЭНТР РАДЗІВІЛАЎ

Нясвіжскі замак — візітная картка Рэспублікі Беларусь. Будоўля ўяўляе сабой багацце і славу княжага роду Радзівілаў. Гэта таксама найлепшы ўрок па гісторыі цывілізацыйнага развіцця краіны. Замак спалучае чатыры еўрапейскія стылі: рэнесанс, барока, готыку і класіцызм. Пабудаваны ў 1584 годзе Мікалаем Радзівілам Сіроткам, як абарончая крэпасць. Цягам стагоддзяў замак мадэрнізаваны і значна змяніў выгляд. Сёння напамінае шыкоўны палац, ахінуты вялікім паркам і процьмай рамантычных легенд.



Найбольш вядомая легенда пра Чорную даму. У яе асобу ўвасобілася Барбара Радзівіл, атручаная цешчай, славутай каралевай Бонай. Людзі вераць, што Чорная дама з'яўляецца напярэдадні нейкага няшчасця. Апошні раз прыкмецілі яе ў канцы 90-ых гадоў XX г., пасля ў замку ўспыхнуў пажар.

З месцам звязаная легенда пра скарб Радзівілаў, прыхаваны ў 1812 годзе ў закутках палаца. Гэта 12 скульптур апосталаў з чыстага золата памерам у чалавечы рост.

Цягам стагоддзяў сядзіба Радзівілаў выконвала ролю культурнага цэнтра. Тут адбываліся тэатральныя пастаноўкі і канцэрты еўрапейскага маштабу.

У 2005 г. Нясвіжскі замак уведзены ў спісак сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. У чатырох залах працуе музей, там можна пабачыць архіў і бібліятэку Радзівілаў, слуцкія паясы, сярэдневяковую зброю.

Кожны год, у траўні, на замку адбываецца фестываль «Музы Нясвіжа». Тады ў мястэчка, непадалёк Мінска, з'язджаюцца лепшыя беларускія і замежныя сімфанічныя аркестры, каб ажыццяўляць творы сусветнай класікі.

**(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 13-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39:**

Ганак, рап, рот, Пі, лік, лета, неба, сена, пазёр, кільно, лотаць. Гарох, Пі, лес, альт, ар, лебедзь, капітан, ён, піка, аброць.

Узнагароду, беларускія апавяданні Рыгора Ігнаценкі «У зімовым садку», выйграла **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Blask
Huk
Jabłko
Brat
Kunak
Bluza
Bo..
Nalešnik
Sad
Kant
Rynek
Makak
Mat
Ar
Šlina
Bierz
Maj
Teatr

# Мае падляшскія дзевяностыя (ч.ІІ)

Дзевяностыя гады XX стагоддзя былі своеасаблівым часам для пакалення народжанага ў васьмідзясятыя гады, таму што менавіта тады прыпала іх дзяцінства. Здаецца, мінула дваццаць пяць гадоў, а так шмат змянілася ў нашым штодзённым жыцці. Думаю, што хаця мы не выхаваліся на камп'ютарах, смартфонах, фейсбуках, дык маем намнога больш успамінаць пра сваю маладосць, чымсьці цяперашняе пакаленне. Зараз вяртаецца мода арганізаваць канцэрты ці дыскатэкі ў стылі 90-х гадоў. Мо таму, што на пераломе 70-80-х гадоў XX стагоддзя нарадзілася найбольш дзяцей, чымсьці зараз. Гэта быў своеасаблівы час у поп-культуры, беларускай літаратуры і музыцы. Тады ў Польшчы памяняўся палітычны лад з камунізму на дэмакратыю. Пастараюся прыгадаць некалькі маіх і вашых асабістых сімвалаў нашага пакалення, звязаных з маёй маладосцю ды жыццём на Падляшшы.



**«Зорка»**

Дадатак да «Нівы», адрасаваны да беларускіх дзетак. У «Зорку» ўсім класам мы пісалі пісьмы, а «Зорка» друкавала. У красавіку 1993 года на старонках «Зоркі» я дэбютаваў сваімі першымі беларускімі вершамі. Разгадваў я зорчыны крыжаванкі і выйграў некалькі беларускіх кніг.

**«Lato z Radiem»**

Культавая польская радыёперадача на першай праграме Польскага Радыё, якую я слухаў штогод з 21 чэрвеня да 31 жніўня. Выходзіла яна ў эфір з панядзелка да суботы ад гадзіны 9:00 да 12:00. Вядучыя — Роман Чаярэк і Зыгмунт Гайзэр. Запрашалі яны ў госці самых вядомых польскіх спевакоў і акцёраў. У перадачы «Лета з радыёпрыёмнікам» былі навіны з галіны шоў-бізнесу і модная ў 90-я гады польская і замежная музыка. Быў у ёй куточак, дзе чыталася кніга і паэтычны куточак «Strofy dla Ciebie». А ў кожную суботу трансляцыя з канцэртнай трасы «Лета з радыёпрыёмнікам». У гэтай перадачы было шмат конкурсаў і гульняў.

**Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.**

Адзіны беларускі літаратурны конкурс, на які можна было выслаць свае беларускія вершы або празаічны твор. Яго ідэя матывавала маладых беларусаў пісаць на беларускай мове. Памятаю як па 30 вучняў бельскага і па 30 гайнаўскага белліцэяў дасылалі свае літаратурныя спробы на конкурс. Апрача таго ў конкурсе прымалі ўдзел дарослыя аўтары і малыя дзеці. Конкурс стварaў нашу літаратурную беларускую сям'ю.

**БГКТ**

Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якога старшынёю быў і зараз ёсць Ян Сычэўскі, моцна прапагандавала і прапагандуе беларускую культуру ў розных яе галінах — літаратуры, фальклоры і музыцы. Гэта БГКТ арганізавала і арганізуе штогод Фестываль «Беларуская песня», Купалле, беларускія фэсты па ўсёй Беласточчыне, а таксама дэкламатарскія конкурсы для беларускіх школьнікаў і ліцэістаў.

**«Барахолка»**

У маёй вёсцы радыёпрыёмнік лавіў Радыё Люблін, у эфіры якога ў кожную пятніцу ад гадзіны 23:00 да 5:00 ночы ў суботу гучала «Barachołka» — радыёперадача, якая выходзіла ў эфір у 1995-1999 гадах. Яна папулярызавала музыку «дыска-пола». Як цікавінка, гучалі ў ёй таксама беларускія песні ў выкананні гуртоў «АС» і «Прымакі». «Барахолку» вёў вядомы польскі радыёжурналіст Ежы Янішэўскі, які ў 80-х працаваў журналістам Трэцяй Праграмы Польскага Радыё. У час праграмы шмат людзей званіла, прысылала паштоўкі і падарункі ў студыю. «Барахолка» была вельмі цікавай і таму я кожную ноч з пятніцы на суботу не спаў і на магнітафон запісваў цікавыя песні. Я быў фанатам жартаўлівага стылю, у якім Янішэўскі вёў «Барахолку». У 2008 годзе перадача вярнулася ў эфір Радыё Люблін, але з новым вядучым. Тады таксама фанаты «Барахолкі» заснавалі ў інтэрнэце дыскусійны форум, прысвечаны перадачы. Будучы ў 2010 годзе ў Любліне, наведаў я рэдакцыю Радыё Люблін, але, на жаль, не сустрэў там Ежы Янішэўскага.

**Веласіпеды**

У 90-х гадах мы з сябрамі-аднавяскоўцамі вельмі любілі ездзіць па вёсцы на веласіпедах. Першым маім «дарослым» веласіпедам быў бацькаў «Урал», пра якога я нават напісаў песню. Пасля дзед мне купіў на маё 12-годдзе з дня нараджэння літоўскі «Ereliukas». Пасля бацька ў канцы 90-х купіў «Аиста». Таксама была ў нас старая зялёная «Україна», на якой маці ездзіла ў суседнюю вёску наведаць сваіх бацькоў, а маіх дзядоў.

**Сустрэчы «Зоркі»**

Упершыню на Сустрэчы «Зоркі» я паехаў восенню 1996 года ў Старыну. Там мы мелі сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Андрасюком у яго роднай Войнаўцы, журналісцкія майстар-класы вёў Мікола Ваўранюк. А вечарам Дарафей Фіёнік іграў на гітары беларускія песні, якія мы хорам спявалі.

**Аўтобусы**

У 90-х гадах мала ў каго была свая аўтамашына, таму амаль усе ездзілі на аўтобусах ПКС у школу ці ў горад. Моладзь сустракалася і развітвалася на бельскім аўтавакзале, які ў 90-я бурліў жыццём. Аўтобусы вазілі так многа моладзі, што часта не было нават стаячага месца. Шафёры аўтобусаў вельмі часта ўключалі касеты з беларускімі песнямі або з музыкай «дыска-пола».

**«Disco Polo Live »**

Апошнім часам, будучы на адпачынку ў роднай вёсцы ў Малінніках, наведаў мяне мой самы вялікі сябра з дзяцінства Грышка. З гэтай нагоды мы крыху папілі піва і я ўключыў фрагменты старой культавай у 90-я гады тэлеперадачы «Disco Polo Live», выходзіла ў тэлеэфір кожную суботу ў 19:00 гадзін на першым камерцыйным тэлеканале «Polsat». Калі мы паглядзелі старыя відэа-кліпы з 1996-1999 гадоў, аддаліся сентыментальным успамінам. У гады нашай маладосці «дыска-пола» гучала з кожнай хаты, з кожнай аўтамашыны, на базарах і ў крамах. Гэта быў сапраўдны феномен польскай папсы. А зараз, хаця нібыта ніхто яе не слухае, дык на вяселлі, як усе панапіваюцца, дык раптам найбольшыя паны ведаюць на памяць тэксты песень; аказваецца, усе з'яўляюцца фанатамі гэтай музыкі, да якой па-цвярозаму не прызнаюцца.

Адзін беластоцкі сацыёлаг сказаў, што Беласток павінен ганарыцца сваімі зоркамі музыкі «дыска-пола», якія іграюць канцэрты ў ЗША, а натоўпы людзей спяваюць іх песні на канцэртах. Нягледзячы на астракізм, зараз «дыска-пола» маецца вельмі добра і вярнулася мода на гэты жанр музыкі.

**«Lady Pank»**

Першым маім кампакт-дыскам быў менавіта «Lady Pank The Best of 1982-1994», які я купіў у 1999 годзе. Тады мы з сябрамі-аднавяскоўцамі пачалі слухаць «Lady Pank». Характэрныя гітарныя рыфы ў выкананні славутага польскага гітарыста Яна Барысевіча ведае ўвесь свет, які з'ездзіла група «Lady Pank». Да таго характэрны хрыплы голас Януша Панасэвіча і трапныя з горкай іроніяй тэксты паэта Анджэя Магяльніцкага — гэта быў рэцэпт на поспех, якім «Lady Pank» карыстаецца з 80-х па сённяшні дзень. Апошні іх сёлетні альбом «Miłość i władza» адразу пакрыўся золатам. У маёй калекцыі знаходзяцца іх арыгінальныя кампакт-дыскі, біяграфія «Lady Pank» аўтарства Міхала Гжэська і кніга «Kryzysowa narzeczona» Анджэя Магяльніцкага. Так, я фанат групы «Lady Pank».

**Lista przebojów Programu Trzeciego**

Заўсёды ў кожную пятніцу пасля 19:00 у 90-я гады я слухаў плей-лісту Трэцяй Праграмы Польскага Радыё, якую вёў і надалей вядзе Марэк Нядзьведзкі. Дзякуючы гэтай перадачы я ведаў усе навінкі польскага рока. Таму я палюбіў польскі рок і такія гурты як «IRA», «Big Cyc», «Lady Pank», «Perfect», «Elektryczne Gitary», «Schout», «Kukiz i Piersi». Дарэчы, Кукіз непатрэбна палез у палітыку, бо вядома «tutaj jest jak jest i Ty dobrze o tym wiesz».

**Кнігі**

У 90-я гады я чытаў вельмі многа кніг. Замест гуляць з сябрамі ў футбол, я ўвесь час сядзеў у кнігах. Калі прачытаў усю школьную бібліятэку, то цягнуў кнігі ад дзядулі з суседняй вёскі, а пасля настаўнікі з малінніцкай школы пазычалі мне свае кнігі. Аднойчы, чытаючы біяграфію Васіля Быкава, я здзівіўся, што ён у сваім дзяцінстве чытаў кнігі тых самых аўтараў, што і я: Жуля Верна, Аляксандра Дзюма, Джэка Лондана. Па гадах я дайшоў да вываду, што добрых кніг і аўтараў так многа, што не хопіць мне жыцця прачытаць іх усіх. Аднак надалей шукаю ўсё новых добрых кніг і думаю, што для мяне самым найлепшым і самым вартасным падарункам з'яўляецца менавіта кніжка.

**Вечаркі**

У 90-х гадах вечарамі да нас на вёсцы прыходзілі старыя, але цікавыя людзі, якія вялі цікавыя гутаркі пра вайну, бежанства, Сыбілію, Біблію ці проста даўняе жыццё. Гэта яны адкрывалі душэўнае багацце нашага роднага Падляшша. Адной з іх была бабулька Елька Калішук, наша суседка, добразычлівая жанчына і сяброўка маёй бабулі Манькі. Аднаго шкадую, што большасць гэтых людзей паўмірала, а я тады не меў дыктафона, каб запісаць іх голас. Была б вечная памятка.

Зараз людзі сядзяць у хатах, глядзяць тэлевізары і не хочацца ім наведваць аднавяскоўцаў.

**Вясковыя забавы**

Маліннікі — вялікая вёска, непадалёк якой знаходзіцца некалькі вёсак. У нас заўсёды было многа моладзі ахвотнай да музыкі і да танца. Таму ў 90-я кожную суботу ладзіліся забавы. Часта клікалі гурт «Bracia B.» з Тапароў (сталыя рэзідэнты ў Малінніках) і з'язджалася моладзь з усяе гміны. На найбольшае свята — Ільі — клікалі больш вядомы гурт (напр. «Mirage» з Бельска) і моладзь гуляла да рання. На забаве можна было купіць піва. Каб увайсці без білета з сябрамі з іншай, так сказаць, парафіі, трэба было пайсці на «zaplecze» святліцы і выпіць з арганізатарамі. Тады ўваход на імпрэзу быў дарэмны, за «friko». На забавах не толькі гуляла мясцовая моладзь, але і людзі ў розным узросце. Старым бабам была нагода папляткарыць хто з кім танцуе і так далей. Аднак пасля 2009 года перасталі арганізаваць забавы. Шкада, бо вясковыя забавы найлепш інтэгравалі вясковую моладзь. Гэта было свята ўсёй вёскі.

**Юрка БУЙНЮК**

# Чыгуначны pic-nic




**У эпоху глабалізацыі неяк *па-дзеравенску* выглядала б адварочвацца ад яе, ставіцца да яе плячыма. Таму вось і палова загалоўка да тэксту на глабальнай мове. Да таго ж падзеленая тая палова на склады, каб выглядала больш аналітычна.**

А цяпер крыху больш *meritum*. Міра Лукша атрымала ад бургамістра Міхалова запрашэнне на чыгуначны пікнік у Саколі, што ў Міхалоўскай гміне. Паколькі сама Запрошаная была запрошана на паралельнае кампанейскае мерапрыемства ў сваё родныя Баравыя, дык Саколе запрапанавала мне. Тут адзначу, што па вялікай верагоднасці тапонім Баравыя выводзіцца ад бору, ад шыпулькавага лесу паўночнай памяркоўнай кліматычнай зоны, якая, магчыма, што з таго самага кораня, называецца таксама барэальнай. А шыпулькі калючыя, як і бор, што ў бор-машыне...

А цяпер яшчэ больш *meritum*. Шчыра прызнаюся, што не надта хацелася мне валачыся на той пікнік, бо ж пяць тыдняў раней быў там на вельмі падобным мерапрыемстве. Публічная камунікацыя нібы туды была, бо ж з Беластока яшчэ ездзіў у Саколе адмысловы поезд, але расклад курсіравання таго цягніка падаўся мне не надта зручным, таму я павалокся туды байкам. Адправуляўся пры пагодзе, якая пасля задажджылася. У сырое надвор'е цяжка байкаваць па жвіроўках ды небяспечна па рухлівых асфальтоўках...

У зале Цэнтра мясцовага вырабу ў Саколі сабралася крыху народу, які не выглядаў на публіку; можна нават сказаць, што публікі — калі б не адна векавая пані з сабачкам — і зусім не было, што быў толькі сам афіцыёз. Ну і той народ чакаў, як мне здалося, яшчэ важнейшага народу, але безвынікова. Мерапрыемства пачалося тады з візантыйскай пунктуальнасцю. Адкрываючы чыгуначны пікнік бургамістр Міхалова Уладзімір Кананачук і прызнаўся, што не ўсе запрошаныя госці з'явіліся; найвышэйшыя рангам былі з Рады Беластоцкага павета. Чыгуначны бок прадстаўлялі афіцыйныя энтузіясты чыгункі, было крыху медыяў.

З дакладам пра аднаўленне чыгуначнага руху з Беластока ў напрамку Гарадка выступіў Анджэй Каспяровіч, жыхар Саколя і галоўны энтузіяст згаданага аднаўлення. Я дазволю сабе прывесці тут агульны змест уступу да ягонага даклада, бо ён, хаця некаму можа падацца інфантыльным, уключае і больш агульныя думкі:

„Сабраліся мы дзеля таго, каб падвесці тры месяцы курсіравання поезда Беласток — Валілы, уік-эндавага, поезда ў Кнышынскую пушчу. Размовы за яго запуск доўжыліся аж чатыры месяцы. А праблема тады, калі справа пра грошы. Грошы знайшліся і хачу тут сёння падзякаваць ваяводскім уладам, а асабліва пану маршалку Падляшскага ваяводства, што станоўча паставіўся да гэтай просьбы і поезд запусціў. Хачу таксама падзякаваць уладам Гарадоцкай і Міхалоўскай гмін, што знайшлі грошы. Тры месяцы хутка мінулі і сёння іх падсумоўваем. Я прадстаўлю можа крыху высакалётны план на будучыню, бо сёлета быў толькі пачатак. Ідэю прывялі да гэтага поезда, таму прадстаўлю праект нашай ініцыятывы. А калі будзем дзейнічаць разам, то зробім добра не толькі грамадству наўсцяж чыгуначнай лініі, але і тым, што жывуць у Беластоку. І загаловак гэтага праекта: «Поездам з Беластока ў Кнышынскую пушчу», на г.зв. Усходнюю сцяну, у Валілы, Беласток і Зубкі-Беластоцкія. З Беластока ў Валілы 34 кіламетры, поезд ездзіў з 2 ліпеня да 9 кастрычніка цягам трыццаці дзён і выканаў 62 курсы, задаволіў чаканні турыстаў і жыхароў, перавёз 2418 пасажыраў і 340 веласіпедаў, нягледзячы на неспрыяльныя атмасферныя ўмовы і без адмысловай медыйнай прамоцыі. У сярэднім на адзін курс поезд забіраў 39 асоб і пяць веласіпедаў. Наблізіў турыстам невядомыя дасюль абаянні Кнышынскай пушчы і даў шанц пазнання прыгожай падляшскай прыроды. Не можам загубіць здзейсненага шансу, што пасля 16 гадоў і трох месяцаў 2 ліпеня 2016 года рушыў першы уік-эндавы поезд Беласток — Валілы — Беласток, які разбудзіў грамадскія спадзяванні. Трэба намагацца, каб у 2017 годзе паязды курсіравалі пастаянна. Зашмат патрачана публічных грошай у гэту задачу, у чыгуначную інфраструктуру і ўік-эндавае курсіраванне, каб цяпер ад усяго адмовіцца, знішчыць, змарнаваць. Хочучы запусціць пастаянную чыгуначную сувязь на лініі Беласток — Зубкі-Беластоцкія, трэба неадкладна аднавіць чыгуначны маршрут на лініі Беласток-Фабрычны — Зубкі-Беластоцкія, каб пасажырскія цягнікі ездзілі з хуткасцю 60-80 кіламетраў у гадзіну, а ў Валілах адкрыць таварную загрузачную станцыю. Гарадок трэба злучыць з чыгункай. Пасажыры будуць давезены да кожнага курса поезда бясплатным аўтобусам з важным чыгуначным білетам з Валіл у Гарадок і з Гарадка да поезда ў Валілах. Такім чынам Гарадок атрымае выгаднае спалучэнне, што выдатна скароціць час пераезду на 20 мінут, з Гарадка ў Беласток. Час праезду поезда Беласток — Валілы будзе роўны 35 мінутам плюс пяць мінут аўтобусам у Гарадок, што паправіць самаадчуванне і камфорт язды. Такім чынам будзе больш людзей у паяздах ды будзе папраўлены стандарт і якасць падарожнічання. На чыгунцы дзейнічаюць законныя льготы, якімі пакарыстаюцца вучні, студэнты і пенсіянеры. Публічны сродак транспарту, якім з'яўляецца рэйкабус, гэта сучасны сродак камунікацыі, мае прыбыльнасць, выгадныя сядзенні і задавальвае еўрасаюзныя стандарты. Настаў час, каб выгадным і камфортным транспартным сродкам людзі пачалі падарожнічаць па мерках XXI стагоддзя, у якім даводзіцца нам жыць. Цягніку нястрашныя фанабэрыі перавозчыкаў, снежныя завірухі, галалёд, люты мароз. Заўсёды паедзе, і заўсёды на час. Ратуйма г.зв. Усходнюю сцяну, якая маланкава абязлюджваецца і старэе, дзе цягам некалькіх гадоў вёскі і калёніі, размешчаныя ўздоўж чыгуначнай лініі ў напрамку Зубкаў-Беластоцкіх, перастануць існаваць. Вялікай памылкай ранейшых улад было спыненне ў 2000 годзе пасажырскага руху на лініі Беласток — Зубкі-Беластоцкія. Цягам шаснаццаці гадоў, калі тут не было паяздоў, маладыя людзі ўцяклі ў горад Беласток або выехалі за граніцу, а іх родныя мясцовасці былі адрэзаны ад свету і забытыя Богам і людзьмі. Зараз да дзесяці мясцовасцей на тэрыторыі Гарадоцкай гміны не даходзіць ніводзін рэйсавы аўтобус; а гэта Страшава, Зубры, Зялёная, Мастаўляны, Свіслачаны, Скрабляки, Зубкі, Вераб'і, Нарэйкі і Габяты. Адзіным ратункам і пільным рашэннем сёння з'яўляецца рэактываванне лініі ў Зубкі-Беластоцкія. Калі будзе рэгулярнае чыгуначнае спалучэнне, то маладыя людзі пачнуць вяртацца на спадчынную бацькаўшчыну, адрамантуюць старыя дамы, створаць аазіс спакою, рэкрэацыі і адпачынку. Пасля выхаду на пенсію паселяцца на пастаяннае жыхарства. Не да ўяўлення ў XXI стагоддзі, каб старыя хворыя і бяздольныя людзі, якія насяляюць г.зв. Усходнюю сцяну, не мелі кантакту са сталіцай ваяводства. Прамуйма прыгажосць Кнышынскай пушчы. Уік-эндавы поезд даказаў, што ландшафтны парк Кнышынскай пушчы вельмі прыцягальны, куды цягнікі забралі за 340 пасажыраў з веласіпедамі. Кнышынская пушча гэта агромністы лясны комплекс, адзін з лепш захаваных у нашай краіне, плошчай у 126 тыс. гектараў, які лагодным паўкругам акаляе горад Беласток. Тут дзейнічае другі ў краіне па велічыні ландшафтны парк, а на яго тэрыторыі 21 адметны рэзерват. Гэта такі ж барэальны лес, што тайга, лес тыповы для Аляскі, Сібіры, Скандынавіі ці Камчаткі. Не па нашых сілах такія далёкія падарожжы; затым прамуйма Падляшша. У гэтае мерапрыемства, запуск пастаяннага поезда ў Зубкі-Беластоцкія, павінны ўключыцца гміны і земскі павет Беласток, па якіх тэрыторыі пралягае чыгуначная лінія Беласток — Зубкі-Беластоцкія: горад Беласток, Супрасль, Заблудаў, Міхалова і Гарадок. Такім чынам Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства пры фінансавай падтрымцы гэтых гмін і паветаў загарантуе рэальны шанц ратавання г.зв. Усходняй сцяны і накіруецца на развіццё турызму і рэкрэацыі. Трэба таксама стварыць дадатковыя чыгуначныя прыпынкі на тэрыторыі Беластока: Беласточак і Скарупы; на тэрыторыі Супрасльскай гміны Засцянкі, Сабалева ды Зарэчаны на тэрыторыі Гарадоцкай гміны, каб аблегчыць людзям выгадны доступ да сучаснага публічнага транспартнага сродка".



Затым спадар Каспяровіч расказаў крыху наконт планаў далейшага ўзбуйнення пасажырскага руху на згаданай трасе. Прывёў ён некалькі варыянтаў, дзе найбольш размашысты прадбачвае чатыры пары цягнікоў у суткі з Беластока ў Зубкі або Валілы і назад, а мінімальны — дзве пары. А цяпер крыху пра грошы; калі я добра запамятаў і не памыляюся, то сёлетняе ўік-эндавае курсіраванне рэйкабуса з Беластока ў Валілы і назад каштавала звыш сямідзесяці тысяч злотаў, з чаго пасажыры пагасілі толькі дванаццатую частку, апошнюю долю — самаўрады ваяводства ды Міхалоўскай і Гарадоцкай гмін. Прадбачваны найбуйнейшы варыянт каштаваў бы каля дваццаці разоў больш. Баюся думаць пра колькасць пасажыраў у будні дні, бо ж цягнік з Беластока ў Чаромху, які едзе па значна больш людной тэрыторыі, у сярэднім возіць іх камерную колькасць. Магчыма, што ў грыбны сезон, каля золаку, крыху было б. Льгот у Рэгіянальных перавозах, якія возяць пасажыраў па нашым ваяводстве, менш чым у суседняй Мазавецкай чыгунцы.

Мінорна гляджу я ў напрамку чыгуначнага Гарадка. Асабіста не разлічваю я на вялікі натоўп пасажыраў у нашу Аляску-Камчатку. Дапусцім, вельмі аптымістычна, што іх лік удзесяцерыцца, значыць паедзе іх каля дваццаці пяці тысяч у год. А запуск найбуйнейшага варыянта каштаваў бы хай сабе мільён трыста тысяч — тады на аднаго пасажыра трэба было б выдаткаваць за пяцьдзясят злотаў; сам пасажыр, здаецца, так не раскашэліцца, хіба што ў экстрэмальнай патрэбе...

Згадка спадара Каспяровіча пра тайгу вельмі на часе. Бо ж і больш слаўная Белавежская пушча ў той самой кліматычнай зоне, што і Кнышынская. Адно толькі клімат мяняецца і спіхвае нашу памяркоўную кліматычную зону на поўнач, а да нас падпаўзае цяплейшы клімат. А карааеды, што зараз накінуліся на нашы шыпулькавыя лясы, рыхтуюць грунт для новай рэчаіснасці. Здаецца, што з пацяпленнем клімату трацім нашу прыродную спадчыну, нашы барэальныя лясы. Цяперашні галосны крык пра ахову Белавежскай пушчы перад санітарнымі зачысткамі, гэта, здаецца, толькі вядомая з чыгуначнага жаргону *para w gwizdek*. Белавежская пушча — але ці толькі яна? — становіцца ахвярай глабальнага кліматычнага працэсу...

Пасля афіцыйнай часткі было ў Саколі вогнішча і канцэрт капэлы „Хутар" з Гарадка. А я ў той час калясіў ужо байкам па размоклых жвіроўках колішняй Блудаўскай пушчы, намакаючы і сам. Але не наракаў на тую дажджынку лёсу, які згатавала мне рэдакцыйная сяброўка. Каля лясных дарог ляжала шмат тэрыконаў са стваловў яліны. Можна было ўвачавідкі „любавацца" наглядным глабальным геатэрмічным працэсам.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# З Крыма ў Крынкі

**Адна з Крыма, другая з Каўказа. Як не глядзець, цяпер яны зямлячкі — грамадзянкі вялікай Расіі. У саракагадовай Аляксандры і на дзесяць гадоў старэйшай Карыны супольны прадзед. Ніколі раней не бачыліся. Знайшлі сябе два гады таму, па інтэрнэце. Цяпер яны ў супольным паломніцтве да зямлі продкаў.**

Яго пачатак у падкрынскай Грыбоўшчыне, у маленькай, пушчанскай царкве. Цёплае, 2 жніўня 2016 года. Прастольнае свята прарока Ілы — уладара грому, маланкі і дажджу, які ездзіць па небе ў вогненнай калясніцы. Царква поўная людзей, у пераважнай большасці прыезджых. Зразу пасля завяршэння службы ахайныя бабулі ў хустачках спяшаюць на мясцовы могільнік. Ідуць пакланіцца пахаваным тут прыслужніцам грыбоўскага лжэпрарока Ілы Клімовіча. Апошнія сведкі эпохі цудаў. Дочкі выратаваных ад бяды славутым прарокам-самазванцам. Размаўляюць не па-тутэйшаму, на дыялектах далёкага Бельска і Гайнаўкі. Сваім «прарок» чамусьці ніколі не дапамагаў.

Народжаная на Крыме Аляксандра размаўляе ў асноўным па-руску, але як трэба і па-ўкраінску загаворыць. Карына выдатна валодае рускай, украінскай, беларускай і польскай мовамі. Пасля спроб выкручвання майго языка ва ўкраінскім напрамку, пераходзім на найбольш папулярную рускую. Ні адна, ні другая ніколі не чулі пра Ілью Клімовіча і, праўду кажучы, не вельмі іх гэтая гісторыя цікавіла. Асноўнае — наведаць магілы продкаў, якія спачываюць на невялікім прыцаркоўным могільніку. Маленькі, мураваны крыж, без надпісаў, але дагледжаны сябрамі, якія засталіся па гэтым баку мяжы. Дагледжаюць ужо семдзесят гадоў, зусім бескарысна, можна сказаць, ад душы. Абавязкова прычапіць дошчачку, але толькі пасля кансультацый з яшчэ жывымі беларускімі цёткамі.

Непадалёк Грыбоўшчыны вёска Юзэфова. Там жыла сям'я Самойлікаў. Мікалай Пятровіч Самойлік — малодшы брат Анны па мужу Дарашкевіч, бабулі Карыны, нарадзіўся ў 1918 годзе ў Ташкенце. Былі ў яго яшчэ сёстры Софія і забітая ў Папоўцы ў час Другой сусветнай вайны Агата.

Аўтарка (злева) і Аляксандра Харытонава ў Крынках

Дзед Мікалай апекаваўся бацькамі: Сафіяй — дзявочае прозвішча Гжэсь і Пятром Самойлікам. Пасля вайны пераехаў за мяжу ў недалёкія, але ўжо савецкія, Белакозы. Без бацькі Пятра — юзэфоўскага солтыса, якога забілі праўдападобна немцы. Мікалай ажаніўся з Марыяй Філімонаўнай, дзявочае прозвішча Боброўская, бабуляй Аляксандры з Крыма. Марыя нарадзілася ў Юраўлянах у 1920 годзе.

Дакументаў сям'і Баброўскіх шукаем ва ўправе горада і гміны Крынкі, у якой межах знаходзяцца Юраўляны. Безвынікова. Чыноўніца перапрашае нас ветліва і раіць наведаць беластоцкі архіў.

У Юраўлянах няма ўжо праваслаўных. У саракавых гадах пераехалі ў СССР. На іх месца прыйшлі каталікі з беларускага боку. Бабуля Марыя заўсёды тлумачыла Аляксандры, што калісь Юраўляны былі ў Беларусі, толькі пасля вайны правялі там мяжу і прыйшлося выбіраць паміж Польшчай і той жа Беларуссю. Дваюрадныя сёстры Марыі выбралі Польшчу.

На канцы Юраўлянаў стаіць яшчэ адзінокая, запушчаная царква. Ёсць і добра дагледжаны могільнік. А насупраць яго польскі і беларускі памежныя стаўпы.

Магілы размешчаны тут паводле сямействаў. У адным кутку Алекшы, у іншым Філіповічы, Пацы. Аляксандра датыкае гэтых найстарэйшых. Быццам сляпы, водзіць пальцамі па высечаных у камені, але ўжо неразборлівых літарах.

Бацька бабы Марыі, Філімон Ерамеевіч Баброўскі, працаваў краўцом у Юраўлянах і Крынках. Мела яна трох братоў. Андрэй памёр у бежанстве на трэцім годзе жыцця, у Томску, двухгадовы Іван — у Харкаве. Аляксандр загінуў у баях у 1945 годзе ў Кёнігсбергу (сённяшнім Калінінградзе). Менавіта ў яго гонар пахрысцілі ўнучку Марыі — Аляксандру.

Аляксандра запыняецца пры магіле Валошынаў яшчэ з царскіх часоў. З гэтага роду паходзіла жонка Філімона Баброўскага, Анна Антонаўна Валошын, якая памерла ў Крыме ў 1965 годзе.

Бабуля Марыя Філімонаўна Баброўская выйшла замуж за Мікалая Пятровіча Самойліка ў 1941 годзе. Два гады пазней у Юзэфове нарадзілася іх першая дачка Вольга, але як месца нараджэння ў яе запісаны Беласток. Падпарадкаваўшыся рашэнню большасці сямейства Самойлікаў, Марыя і Мікалай пераехалі на хутар Белакозы Гродзенскай вобласці. Атрымалі там нейкую хату, нарадзілі яшчэ чацвёра дзяцей. Бацька Аляксандры быў трэцім па чарзе. У 1964 годзе «добравольна-прынудзі-

працяг ☞



Цягам апошніх стагоддзяў беларусаў прывучалі звацца сялянскай нацыяй. Вобраз лапатніка ў саламяным капелюшы, які грае на жалейцы песні журбы, стаў выдатным сімвалам народа, які ад цямна да цямна гне спіну на пана. І нібы толькі прыйшоўшая народная ўлада вызваляе гаротнікаў, каб у хуткім часе называць іх бульбашамі, якія атаясамліваюцца з дранікамі альбо, калі мова пра ліхалецце, з гнілой бульбай. Пазбыцца гэтых стэрэатыпаў уласна беларусы няздольныя дагэтуль, шчыра лічачы сябе сялянскай нацыяй, а сваю мову нейкай вясковай гаворкай. Ну а ўласная дзяржава, якой кіруюць ідэйныя нашчадкі камуністычнай ідэалогіі, не спяшаецца папулярызаваць сярод свайго народа веды аб яго высакароднай і шляхецкай гісторыі. Так, не папулярызуюцца веды пра Статут ВКЛ, дзейнасць Скарыны, Магдэбургскае права, асаблівую архітэктуру, у прыгнечаным стане перабывае беларуская мова, на якой калісьці пісаліся тыя ж старадаўнія кнігі і якая, як вядома, з'яўляецца душой народа.

Зразумела, такі стан рэчаў задавальняе не ўсіх. Не ўсе адчуваюць вялікае духоўнае яднанне пад „лявоніху" і паяданне дранікаў. Іншым людзям хочацца, каб беларускае не азначала сялянскае. І з гэтай нагоды яны аб'ядноўваюцца. Адным з такіх клубаў па інтарэсах з'яўляецца „Шляхецкі баль", сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.vitebskbal.by**.

Асноўная выява сайта размешчана на шэра-зялёным фоне, які супакойвае вока. Выйсці да рубрык месяцца як зверху, так і з левага боку. Уся ідэя сайта, а ён па сутнасці з'яўляецца праектам па папулярызацыі бальных танцаў, знаходзіцца ў рубрыцы „Аб праекце".

„Беларусь доўгі час лічылася краінай выключна сялянскай культуры. Пры гэтым ігнараваўся не менш цікавы і важны ў гістарычным плане пласт шляхецкай культуры, пра які амаль нічога невядома. Менавіта ў шляхецкім асяроддзі ўзнікла і набыла развіццё бальная культура. Некалькі стагоддзяў назад баль, як свецкае мерапрыемства, выконваў свае функцыі і меў свае, адпаведныя часу, задачы. Ён даваў магчымасць арганізоўваць і падтрымліваць зносіны паміж прадстаўнікамі дваранства ці на Беларусі — шляхты. Можна з упэўненасцю сказаць, што ў сучасным грамадстве амаль цалкам страчана культура танца. Між іншым, танец — гэта не проста ўменне прыгожа рухацца. Гэта выхаванне. Выхаванне музыкай, рухамі, традыцыямі, гісторыяй. Танец — гэта тая нітачка, якая звязвае ў адно цэлае мінулае, сучаснасць і будучыню. Ён збліжае людзей і, разам з тым, робіць іх непаўторнымі, адметнымі, індывідуальнымі", — распавядаецца ў рубрыцы „Аб праекце", які ідзе першым у верхнім пераліку выйсцяў.

Згодна пададзеным на сайце звесткам, „Шляхецкі баль" узнік у Віцебску. Паслядоўнікі ж бальных адраджэнцаў знаходзяцца і ў іншых беларускіх гарадах. Так, напачатку кастрычніка шляхецкі баль прайшоў ва ўсходнебеларускім Крычаве.

„Многія чамусьці лічаць, што гісторыя Беларусі — гэта гісторыя сялянства, а нацыянальнае адзенне беларусаў — ільняныя кашулі і лапці. Але былі і гарадскія жыхары! І як можна забыць пра вядомых на ўсю Еўропу магнатаў — Радзівілах, Сапегах, Агінскіх!.. Беларусы — гэта і нашчадкі шляхты, і мы хочам гэта паказаць, каб даказаць: нам ёсць чым ганарыцца", — распавяла беларускаму парталу Tut.by адна з кіраўнічак клуба Эля Каржыцкая.

❖ **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з календара

Аўтар „Лукішскага дзённіка"

## 110 гадоў з дня нараджэння

# Алеся Салагуба

Беларускі паэт, публіцыст, мемуарыст Алесь Салагуб нарадзіўся 18 кастрычніка 1906 г. у вёсцы Зарудзічы Вялейскага павета (цяпер — Смаргонскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1915 г. у час Першай сусветнай вайны апынуўся з бацькамі ў бежанстве, але недалёка — у Ратамцы пад Мінскам. У 1918 г. сям'я вярнулася ў родную вёску. У 1922 г. Алесь Салагуб паступіў у Віленскую беларускую гімназію і скончыў яе ў 1927 г. Там ён зблізіўся з дзеячамі беларускага вызвольнага руху, у тым ліку з Арсенем Канчэўскім. З узнікненнем Беларускай сялянска-работніцкай грамады актыўна далучыўся да яе дзейнасці: арганізоўваў у сваім павеце гурткі Грамады, распаўсюджваў рэвалюцыйную літаратуру. За гэта некалькі разоў знявольваўся польскай уладай у турму — у 1924 і 1927 г. быў вязнем Лукішак і Стафанаўскага астрога ў Вільні. Перыяд навучання ў гімназіі, актыўная грамадска-палітычная дзейнасць і зняволенне за краты сталі вызначальнымі для станаўлення Салагуба як асобы і паэта. Выйшаўшы з турмы вясной 1928 г., ён стаў шукаць магчымасці перабрацца ў Савецкую Беларусь, не ўсведамляючы, што яго там можа чакаць. У тым жа годзе ён нелегальна перайшоў польска-савецкую мяжу і паступіў вучыцца ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. У 1929 г. да яго перабралася жонка, таксама нелегальна перайшоўшы мяжу.

Пасля заканчэння ў 1931 г. універсітэта Салагуб стаў аспірантам Інстытута літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, марыў пра сур'ёзную навуковую і літаратурную працу. Аднак гэтыя планы былі жорстка парушаны, і ён на трэцім годзе аспірантуры стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. 9 студзеня 1934 г. як „вораг народа" быў прыгавораны да расстрэлу. Найбольш верагодна, што расстраляны Алесь Салагуб быў у Мінску. Рэпрэсаваная тады была і жонка Салагуба — Марыя, якую з сынам выслалі ў Смаленск, затым — на Поўнач.

Першай выяўленай публікацыяй Салагуба лічыцца допіс „Культурныя паны" ў газеце „Незалежная думка" ў 1920 г. пад псеўданімам Адраджэнец. Штуршок для развіцця паэтычнага таленту дала Віленская беларуская гімназія. У тым асяродку выспяваюць яго раннія вершы, якія з'явіліся ў 1923 г. у часопісе „Рунь", друкаваным на гектографе. За кратамі ў 1924 г. Салагуб напісаў цыкл вершаў і п'есу „Касулі ў цэмры". У гэты перыяд яго захапляла талстоўская ідэя несупраціву і ідэал усеагульнай любові да чалавека. Аднак пасля ў поглядах паэта здарыўся пералом і ён пераходзіць да пралетарскай ідэі „класавага змагання". Таму і вершы яго ў той перыяд мелі агітацыйна-камуністычны характар. Паэт актыўна друкаваўся ў заходнебеларускіх перыядычных выданнях грамадоўскай арыентацыі — „Студэнцкая думка", „Беларуская ніва", „Народная справа", сатырычным часопісе „Маланка". Пісаў пераважна пад псеўданімам Лявон Чачотка. Цягам паўторнага зняволення ў Лукішках напісаў тры сшыткі вершаў, некалькі апавяданняў і драму „Вяселле". Вершы, пераважна астрожнай тэматыкі, увайшлі ў яго адзіны паэтычны зборнік „Лукішкі", выдадзены ў Мінску ў 1929 г. Сваёй творчасцю Салагуб уводзіў чытача ў заходнебеларускую рэчаіснасць. У зняволенні паэт напісаў таксама свой лепшы твор — „Лукішскі дзённік", у якім падрабязна апісаў рэаліі турэмнага побыту. Гэты твор Уладзімір Калеснік назваў „мастацкай хронікай турэмнага жыцця".

Пасмяротна рэабілітаваны Алесь Салагуб у 1956 годзе.

❖ **Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

цельна» пераехалі яны на Крым. Пасылалі там толькі шматдзетныя сямействы ў хаты, пакінутыя выселенымі ў 1944 годзе балгарамі, татарамі, немцамі, грэкамі і армянамі.

Больш чым будучыня Аляксандру цікавіць прошлае. Паспела запісаць на камеру некалькі размоў з бабуляй Марыяй, успамінаў звычайнага жыцця. Зберагае таксама ваенныя ўзнагароды дзеда Мікалая: два ордэны Славы першай і другой ступеней і ордэн Чырвонай Зоркі.

У адзінаццаць раніцы ёй пазванілі з польскага пасольства і сказалі, што далі візу. Вечарам была ўжо ў цягніку. У Беласток ехала двое сутак. Блізкія дзівaваліся, на што ёй туды ехаць, траціць столькі грошай. Не ведала як ім усё гэта аб'ясніць. Цягнула да каранёў, да месцаў, у якіх калісь жылі дзяды, да архіваў. Прытым тут чакала яе Карына.

Вельмі ёй тут спадабалася. Зелень, цішыня, спакой, якога, на жаль, так не хапае ў хаце, мясцовая гасціннасць. Як сказала, добра ёй тут дыхаецца. Асабліва закахалася ў падкрынскіх Белагорцах пры нагодзе сустрэчы са з'ехаўшым туды на лета варшаўскім сямействам. Марыць купіць тут сабе невялікую хатку.

Іаанна ЧАБАН




# Памянялі быка на індыка

«Абяцанкі, цацанкі, а дурному радасць», — напамінае народная мудрасць. І гэтаму нельга запярэчыць, бо пацвярджае яе сучасная рэчаіснасць, напрыклад, парламенцкія выбары. У выбарчай кампаніі 2014 года Права і справядлівасць абяцала выбаршчыкам «добрую змену». Вызначыла пяць прыярытэтных задач на першыя сто дзён. Сцяганоснай была праграма «Сям'я 500 плюс», а таксама бясплатныя лякарствы пажылым людзям, адмена школьнай рэформы (шасцігодкі не маюць абавязку ісці ў першы клас), ды некалькі дзясяткаў іншых законаў, датычных эканомікі, правасуддзя і сацыяльнай сферы. У рэчаіснасці ўсё аказалася мрояй. Не было выплаты па праграме «Сям'я 500 плюс» на дзіця ўсім сем'ям. На спіску бясплатных лякарстваў сеньёрам апынуліся самыя танныя прэпараты. Не стану прыводзіць іншых прыкладаў. Сумнае, але праўдзівае.

Зараз гэтыя, што паверылі красамоўным ПіСаўскім аратарам, бо лічылі «на добрую змену» (пенсіянеры, сяляне, адзінокія маці) кусаюць локці. Адчуваюць яны сябе ашуканымі, пратэстуюць. Круг незадаволеных рэформамі «добрай змены» пашыраецца. Пачатак далі абаронцы Канстытуцыйнага трыбунала. Мабілізаваў іх да гэтага Камітэт абароны дэмакратыі. Следам пайшлі працаўнікі новай сістэмы правасуддзя, паліцыі, цывільнай службы, перамен у КРУС, выкупу зямлі і т.п. Самым вялікім пратэстам аказаўся «чорны панядзелак», у якім у сямнаццаці гарадах краіны ўдзельнічалі 98 тысяч працаўнікаў «абвостранага» закона аб абортах. Але не канец пратэстам. Пазней пратэставалі працаўнікі культуры, потым працаўнікі адукацыі супраць новай школьнай рэформе. Такія магутныя пратэсты, як у «чорны панядзелак» з выступленнямі жанчын (ды не толькі), заставілі кіраўнікоў Права і справядлівасці ўзяцца за розум. На парламенцкай камісіі справядлівасці і правоў чалавека прагучала заява пасла Чарнэцкага (ПіС) адхіліць грамадзянскі праект аб абортах. Парламент падтрымаў рашэнне камісіі. Гэтым разам ашуканымі аказаліся аўтары грамадзянскага праекта, якія, дарэчы, сімпатызуюць упраўляючай камандзе.

Які будзе далейшы ход «добрай змены», пакажа час. І тут зноў можна пакарыстацца народнай мудрасцю: «Памянялі быка на індыка». Суверэн даверыў «добрай змене» ПіС, адвярнуўся ад Грамадзянскай платформы. Было кепска, стала горш. Калі гэтаму будзе канец? На гэтае пытанне зможа адказаць адно пані прэм'ер-міністр Бэата Шыдла. Але яна дзеля прыцягнення падтрымкі выбаршчыкаў, корміць народ далейшымі абяцаннямі. Гэтым разам сцяганоснай сталі праграма «Кватэра плюс» і падтрымка жанчынам, якія пазбегслі абортаў і нарадзілі дзяцей з сіндромам Даўна. А якую зараз дапамогу гарантуе ўрад апекунам хворых дзетак і дарослых з абмежаваннямі?...

Уладзімір СІДАРУК

# 23.10 — 29.10

**(22.03. — 20.04.)** Не вырашай нічога, не прааналізаваўшы фактаў. Захочацца прытуліцца да чыйгосьці сэрца. Больш пабудуеш мастоў, чым іх спаліш. Марс схільваць будзе цябе да канфліктаў, але лепш зробіш усмешкай, кампліментам ці прыслугай. Абавязкова абследуйся ў лекара. З 23.10. могуць перакрэсліцца твае планы або добра развіваючыеся адносіны.

**(21.04. — 21.05.)** Многа радасці, ажыўленне ў кампаніі і ў сям'і. Калі маеш кагосьці на воку, ён не будзе такі хуткі з дэкларацыямі. 26-28.10. можаш спадзявацца весткі з канікул — не забыліся аб табе. Адрамантуй жыллё, або хоць перастаў мэблю; маеш побач «залатую ручку», на якую можаш спадзявацца. Можаш паказаць таксама свае ўмеласці, праекты, патэнты або творы. На працы будзеш выдатным негацыянтам. Хочаш павышэння — успомні пра гэта, але забяспечся ў дакументы і доказы. 24-28.10. хтосьці схоча выкапаць пад табою ямку!

**(22.05. — 22.06.)** Прыкмеціш нагоды там, дзе іх раней не бачыў. Удача — тваё другое імя, прынамсі да 25.10. Будзеш віртуозам флірту і цікавым суразмоўцам. Можаш пагадзіцца са сваім найбольшым праціўнікам. Шыкуецца павышэнне, але больш будзеш выдаваць; мусіш абмежавацца, бо прыйдзецца пазычаць! Не прамачы ног, найлепш купі сабе цёплыя чобаты. З 29.10. добра адпачнеш.

**(23.06. — 23.07.)** Усміхнецца да цябе Венера, шыкуючы рамантычныя сустрэчы. З 27.10. у гэтым плане пераламі руціну! На працы з абавязкамі справішся прыпяваючы. Марыш пра павышэнне і большыя грошы? Дакажы, што знаешся на справе, пакажы свае козыры. Шукаючы працу, не вылазь на пачатку з грашовымі патрабаваннямі. 26.10. убачыш мэту, на якой варта табе засярodзіцца.

**(24.07. — 23.08.)** Перашкоды на тваёй дарозе акажуцца быць няцяжкімі, дык не адмаўляйся ад сваіх планаў. Хатнія абавязкі не будуць табе цяпер даспадобы, але не перамайся нейкай пылінкай на дыване. Дарэчы, нахай і іншыя прыбяруць. 22-24.10 добры час для мастакоў і рэкламнікаў; таксама на пошукі работы. Калі можаш, еж вострае — хутчэй пахудзееш.

**(24.08. — 23.09.)** Удалы час, задумы перакуй у пачын і грошы. Перашкоды проста пераскочыш. Рамантычныя ранкі і вечары. Бывай сярод людзей. Можаш разглянуцца за падзаработкам, асабліва калі ты ўжо на пенсіі. Але крэдытную карту лепш схавай глыбока. Вучы хатніх здаровага ладу жыцця. З 29.10. твае здагадкі акажуцца трапнымі.

**(24.09. — 23.10.)** 22-23.10. можаш непатрэбна знервавацца. Да 24.10. самі ідэі будуць залятаць табе ў галаву, вырашыш кожную праблему, добры час на творчую працу, новыя праекты. 24-28.10. новае знаёмства можа кончыцца расчараваннем. Падарожнічай, сустракайся. Звярні ўвагу на яўных і скрытых ворагаў — могуць сапраўды быць пагрозлівымі. Вучыся новых рэчаў, шукай новых рашэнняў. Еж часнок!

**(24.10. — 22.11.)** Да 24.10. яшчэ цьмяна на гарызонце. Але прыемна сярод радні, самотным шыкуецца любоўнае захапленне. Задбай аб чулыя словы. Хоць цяпер ты не душа кампаніі, але знойдзеш мілую асобу, з якой нагамонішся. На працы яшчэ не выходзь перад шэраг (на пачатку тыдня). Сцішы эмоцыі.

**(23.11. — 22.12.)** Моц з табою! Можаш шмат зрабіць. Думай крэатыўна. Цяпер тваё захапленне можа прынесці табе поспех. Будзеш найлепшы там, дзе патрэбна хуткасць рашэнняў і выбараў. 24-28.10. рамантычныя хваляванні. 22-24.10. добры час на здаванне экзаменаў, кваліфікацыйныя размовы. З 28.10. прытрапяцца неспадзяваныя выдаткі, якія могуць пацерабіць твой бюджэт. Не пераборшчвай таксама з тэлефоннымі званкамі.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш энергічны, удачлівы ды хітры як ліс. Ніхто табе не дасць рады. На працы ты непераможны. У пары таксама будзеш бязлітасны. Не давай вялікага значэння мімалётнаму захапленню. Не ідзі на вайну з сямейнікамі. Працу шукай самастойна. З 27.10. абы драбяза можа цябе вывесці з раўнавагі.

**(21.01. — 19.02.)** Дзякуючы талковым задумам, дасягнеш мэту. Чакае цябе вялікая папулярнасць у кампаніі. Пакажаш усе свае перавагі. Але пільнуйся, каб з-за нейкага «выскоку» не страціць даверу і павагі. Зрабі ўжытак са сваёй крэатыўнасці; будуць вынікі. Але на пакупкі хадзі з кімсьці памяркоўным.

**(20.02. — 21.03.)** Свет будзе для цябе вельмі мілым месцам! Асабліва таму, што будзе рамантычна і горача. Дбай аб уласны камфорт. Настройся зычліва да свету. На працы ўсе будуць з табою лічыцца. А калі шукаеш новай работы, паварушыся, распытай там, дзе даўно ўжо склаў свае «сіві». 24-28.10. не ляпні чагось у кампаніі. Да 28.10. некаторыя справы могуць уцячы табе з-пад кантролю.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. правы прыток Волгі = 35 _ 36 _ 22 _;
2. лясны звер з лычом = 13 _ 14 _ 15 _ 1 _;
3. сусед уйгура і таджыка = 10 _ 9 _ 21 _ 25 _ 24 _ 37 _;
4. цягнецца за іголкай = 27 _ 28 _ 29 _ 30 _;
5. вадкасць, якая выдзяляецца скурай у гарачыню = 31 _ 26 _ 32 _;
6. вялікі лес вакол Белавежы = 18 _ 33 _ 34 _ 7 _ 19 _;

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | | 38 | 39 | 40 |

7. драпежнік сямейства кашэчых = 5 _ 6 _ 3 _ 17 _;
8. іспанскі народны танец (з літар а-х-т-о) = 11 _ 12 _ 4 _ 2 _;
9. вялікі скрутак, звязка, напрыклад саломы = 16 _ 23 _ 20 _;
10. падлетак на судне, малодшы матрос = 40 _ 8 _ 38 _ 39 _. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Баварыя, барана, „Аіда", дармаед, дата, здзек, дуга, балерына, бак, вузел, яд.

Рашэнне: **Як баба да дзеда, так і дзед да бабы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 100 egz.



# У палескай глыбінцы (59)

■ Прыпяць ва ўрочышча Валочка

На світанні я сходзіла на возера, да любязскай царквы. Над сонным пасёлкам кукарэкалі пеўні, скрыпелі вароты, гергеталі гусі. У паветры пахла альховым дымам. Хтосьці заядла гарлапаніў на кароў. Усё гэта застаўляла думаць пра няхітры лад жыцця, засяроджаны вакол сям'і і хатняй гаспадаркі.

Самы прыгожы куток сяла з чароўнай панарамай на возера займалі дачы летнікаў. Пасля сезона напаміналі пакінутых жанчын. Веяла ад іх стомленасцю і прэтэнцыёзнасцю на лепшы смак. Бляшаныя дахі катэджаў ледзь-ледзь выглядалі з-за высокіх платоў. Усё гэта кусалася з прыроднай адкрытасцю тубільцаў, таптала іх пачуццё племяннай дэмакратыі і свабоды. Мабыць, ад'езд летнікаў явіўся невыносным шчасцем, палёгкай. Урэшце была магчымасць хадзіць напрасткі, між будынкамі, старымі ляснымі сцяжынамі ...

У царкву вяла пясчаная дарога з капытнікам, ногі страглі ў глыбокім, цёплым пяску. Шэры будынак царквы патанаў яшчэ ў начной імгле, праз што напамінаў з'яву з іншага свету. Здавалася, ён лёгка плыве на шэра-сталёвых хвалях возера. Папраўдзе, царква цвёрда стаяла на высокім беразе, адкрытым на чароўную панараму возера. Як нідзе, тут адчувалася адзінства вады і жыцця, ажыццяўлялася ідэя біблейскага каўчэга.

Любязская царква адрадзілася пасля пяцідзесяці двух гадоў перапынку, у 1991 годзе, пры Незалежнай Украіне. Узвялі яе на месцы легендарнай папярэдніцы, затопленай напярэдадні Вялікай айчыннай вайны.

* * *

Вакол затопленай царквы ад пачатку існавала аўра недагаворанасці. Пабудавалі яе ў міжваенныя гады, на месцы Свята-Мікольскай царквы, сатлелай у часы ваеннага ліхалецця, у перыяд Першай сусветнай. Цяжка сказаць, чаму памяняўся нябесны патранат. Асвяцілі яе ў гонар Параскевы Пяценкі, самай любімай на Палессі святой.

— Магчыма таму, што яна — апякунка жаночых рамёстваў, — мяркуе настаўніца гісторыі Наталля Шклёда. — Параскева лічыцца апякункай ткацтва, шыцця, вышыванкі. Нашы жанчыны былі вымушаны ўласнаручна вырабіць вопратку для цэлай сям'і, прыдбаць пасцель, ручнікі, радзюжкі, дываны. Гэты клопат турбаваў іх круглы год. Бо ж трэба спачатку пасеяць лён, пасля яго сабраць і апрацаваць, спрасці, выткаць палатно, пашыць адзенне і яшчэ прыаздобіць. Ад энергіі гаспадыні залежала якасць жыцця сям'і. Таму нашы жанчыны прасілі ў святой Параскевы, каб яна дапамагала ім паспяваць з работай.

Народ аднак не паспеў нацешыцца як след новай царквой. У час навальніцы будынак перакінула ў возера. Гэта прамовіла як знак бяды. Усё было беззваротна страчаным. Кожны кавалак дрэва, які пацярпеў ад буралому, лічыўся нячыстым, няздатным для новай пабудовы. Яго палілі або пакідалі на месцы, каб спакойна даканаў існаванне. Царкву пабаяліся выцягваць з вады. Па сённяшні дзень на дне возера знаходзяць крыжы, літургічныя келіхі, сярэбраныя абклады ад ікон...



■ Любезская царква Параскевы Пяценкі



■ Раман Карац

Знішчэнне выклікала страх. Старыя людзі ламалі рукі і паўтаралі: «ідзе бяда». Вяшчалі голад, пажары, гаротны лёс і пакуты, смерць, а часам — канец свету...

Фатальны сцэнарый пачаў неўзабаве здзяйсняцца. У 1939 годзе прыйшлі «вызваляць» саветы, два гады пазней з'явіліся немцы «вызваляць» ад саветаў. Пасля было толькі горш. Для вяскоўцаў раскрыліся пякельны вароты.

* * *

Сам прыход немцаў у чэрвені 1941 года ледзь прыкмецілі ў Любязі. Прыехалі на матацыклах. Адразу накіраваліся да возера і доўга мыліся, купаліся. Вакол грымеў гучны смех. Кожнага, хто адважыўся падысці бліжэй, частавалі кубікамі цукру. Тубыльцы ўсміхаліся ў падзяцы. Немцы абяцалі распусціць калгасы. Пасля з'ехалі і ўсё вярнулася на сваё месца. Хоць плацілі даніну, працавалі на сваю сям'ю. Усе адміністрацыйныя справы афармляў солтыс.

— Гэта быў надта паважаны, мудры чалавек. Клікалі яго «балаховец». Людзі ўгаварылі, каб стаў старастам, усе баяліся, — кажа Наталля Шклёда.

Самая вялікая бяда скацілася на галовы моладзі, якую адпраўлялі на прымусовую работу ў Нямеччыну. Пасля сталі прыходзіць ад іх лісты, народ верыў, што ўсё будзе добра. Але няшчасці сыпаліся як град з цёмнага неба. Яшчэ летам 1941 года ў лясным урочышчы Валачка расстралялі 50 яўрэяў. Прывезлі іх аднекуль на машынах. Гэта быў пачатак жаху, які адабраў сон і спакой у пасёлку. Частку старой Любязі засялялі мясцовыя яўрэі. Мелі крамніцы, рамесніцкія станкі. У 1942 годдзе іх пагналі ў гета, ажно ў Камень-Кашырскі. Людзей сагналі паглядзець іх пакінутыя хаты, каб іх багацце выклікала гнеў. Здзіўляла мнагалікасць кніг, буфеты, серванты, дываны. Ніхто аднак не смеў крануць лыжкі ці падушкі. Баяліся за сябе. У Любязі, якая налічвала да тысячы жыхароў, паўтараліся чатыры прозвішчы: Іванысік, Музыка, Паўлючык, Абрамовіч. Адны з другімі былі перажэнены і пароднены. Усе баяліся за Абрамовічаў. Іх арыштоўвалі за само прозвішча нетутэйшыя паліцаі. Калі адміністрацыя клікала ў Любашоў, гаспадары саджалі на фурманку дзяцей, з надзеяй: *можа маленькага адпусцяць!*

У 1944 годзе ўсіх мужчын прызвалі ў Чырвоную Армію. Калі праходзіў фронт, сяло згарэла. Людзі хаваліся па хутарах, у адной хаце гняздзіліся тры-чатыры сям'і. Сацыялістычную Украіну будавалі на спаленай зямлі. Першыя пятнаццаць гадоў прыходзілася па начах красці мёрзлую бульбу на калгасным полі. Дзеці пухлі ад голаду, шмат людзей хварэла. Тыя, што вярталіся з прымусовых работ у Нямеччыне, здзекліва шапталі: *Вось вярнуліся з раю ў пекла!*

Слова баяліся выказаць уголас. Як на няшчасце, у сяле намножылася даносчыкаў. Ці ведалі яны пра царкоўныя званы, закапаныя ў зямлі?

* * *

Магчыма, кожная палеская легенда пра затопленую царкву была ўспамінам вайны, знішчэння, канчатковай страты. Часам заставаўся матэрыяльны след ад легендарнай будоўлі. У Любязі пашчасціла больш як дзе інакш. Адразу пасля фатальнай навальніцы людзі закапалі званы. Да дзеяння натхніў сон набожнай старажылкі. Нібыта сам Хрыстос прыйшоў да яе па вадзе і загадаў закапаць званы. У непрыкметным урочышчы «Белынь». Ніхто не ведаў, што набліжаецца вайна.

— Званы, мабыць, адразу рэквізавалі б на патрэбы арміі, — здагадваецца спадарыня Наталля.

Пра існаванне званоў яна сама даведалася напрыканцы васьмідзясятых. Якраз адкапалі іх для новай царквы. Званы жылі, толькі адзін быў лёгка пашкоджаны. У першай хвіліне Наталля Іванаўна адчула сябе ашуканай. Яна прыбегла да бацькі з прэтэнзіяй, чаму не сказаў ён пра званы раней. Яна ж гісторык. Як можна было хаваць такую тайну? Але бацька ўсё патлумачыў адным сказам:

*— Нельга было, дачушка!*

Праўда, ад той пары глядзела на яго новымі вачыма. Ён, старшыня калгаса, заўсёды стаяў на баку мясцовых. Калі выпраўляў трактарыстаў араць пад засевы ўрочышча «Белынь», загадваў падымаць плугі. Месца, каб ніхто не здагадаўся, заўсёды абсявалі збожжам. Малапрыбытковыя пасевы, якія маскіравалі тайны клад, паўтаралі з году ў год, цягам паўстагоддзя. У глыбі душы ўсе верылі ў адбудову царквы.

Ім пашанцавала.

Царкву адбудавалі ў 1991 годзе і асвяцілі ў гонар святой Параскевы Пятніцы.

Сяло Любязь, як ніхто, патрабуе сёння духовай падтрымкі. Яно першае ў раёне па колькасці мабілізаваных на фронт, разам з сяла пайшло на вайну дзевятнаццаць чалавек. Ёсць адна смяротная ахвяра-герой. Раман Карац загінуў некалькі дзён да канца службы. Пахавалі яго як героя нябеснай сотні, людзі віталі яго цела са свечкамі, на каленях.

— Гэты звычай мы падгледзелі ў тэлебачанні, — адзначае мая субяседніца, — але не было ў нас прадстаўлення, усе спачувалі сям'і. Плакалі. І баяліся за родных, за сябе. Час у нас хворы, шалёны. Народ суцяшаецца, што вайна далёка. Што сюды не прыйдуць. Аднак калі ўспыхне вялікая вайна, нашы мужчыны ўсе пойдуць ваяваць.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960